№ 01 (886) 7 студзеня 2015

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Як падпісацца — старонка 2.**

## Год моладзі

# Будзь у трэндзе

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Ці зможа палескі самародак выратаваць эканоміку?

Гісторыя жыцця новага старшыні Нацбанка Паўла Калаўра.

Старонка 4–5



## З Логвінава спаганяюць мільярд рублёў



Старонка 2

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



## Ягор Філіпенка рыхтуецца скарыць Іспанію

Старонка 9

# Спіс дабрадзеяў, на грошы якіх «Наша Ніва» / NN.BY выдавалася ў 2014 годзе

**Шчыра дзякуем! Дзякуй таксама падпісчыкам папяровага тыднёвіка і рэкламадаўцам, іх заслуга роўная.**

Незалежныя СМІ, установы адукацыі і навукі — гэта той фундамент, на якім будуецца любая нацыя, любое незалежнае грамадства. Бяда тым, хто гэтага не разумее.

На жаль, у большасці выпадкаў мы ведаем толькі імёны ці крыптанімы фундатараў. Мы не маем магчымасці назваць (банк не фіксуе) месца жыхарства ахвярадаўцаў. Але Бог бачыць.

Вось спіс тых, ад каго мы атрымалі ахвяраванні ў 2014 годзе.

Сяргей Шэ-ў
Ігар Дзе-ч
Аляксандр Ка-ак
Т.В. Мац-віч
Г.В. Га-ец
А.Е. Гры-віч
А.В. Ні-юк
Г.В. Ла-да
Павел Аляксеевіч Ка-ха
А.В. Ха-віч
В.В. Тр-як
В.І. Сав-кі
В.М. Са-кі
В.С. Ра-кі
В.Ф. Ра-скі
В.В. Піл-нка
Ю.Е. Пас-евіч
А.Д. Па-вец
С.М. Алі-ка
А.С. М-оз
В.Н. Ма-чоў
Ю.А. Мі-чык
А.Я. Л-дзь
Д.А. Кр-эй
А.А. Кра-скі
А.Л. Ка-оў
А.Н. Кі-ёў
Р.В. Ка-ўскі
М.В. Ів-оў
П.А. Маск-ч
С.Д. Мал-іч
Г.І. Л-ва
А.В. Л-ка
Е.Т. Ля-ская
А.Л. За-аў
Л. К. Язу-к
Л.С. Дзм-ева
А.В. Гіл-скі
Е.С. Ві-ік
Д.П. Вее-ік
Е.Д. Бі-к
Г.М. Ба-н
В.П. Ані-віч
Л.П. Анд-ова
Н.В. Аб-евіч
А.М. Алі-чык (двойчы)
В.С. Са-ка
А.А. К-оўскі
Р.А. Аў-енка
А.Б. За-звіч
С.І. Ал-евіч
І.В. Віш-скі
Сяргей,
А.І. Тк-к
А.Н. Сма-й
Алег Мікалаевіч Ле-к
А.М. Цум-ў
Станіслаў Л-да
А.В. Ба-кі
П-нік Сяргей
С.Д. Ума-ка
А. С-ко
А.Н. Смаг-й
А.В. Юр-віч
В.В. Ге-віч
Сям'я Д-ко з Брэста.
Эльжбета С., якая цяпер у Варшаве.
«Ахвярадаўца, які ахвяраваў 300 000»
Алег
Алесь
Аляксандр Фр-дам
Наталька, Горадня
Косця Бела-ка
Марына
vadzim84

Асаблівыя падзякі — Раману Х.

А таксама ўсім тым іншым ахвярадаўцам, якія прасілі, каб іх не называлі, або каго мы не можам назваць з іншых прычын.

**Важна ведаць**

# За снежань золатавалютныя рэзервы Беларусь паменшалі на $761 мільён

Павел Калаўр, новая мятла ў Нацбанку, замяла па-новаму. За апошнія два тыдні афіцыйны курс даляра вырас на 17%, да 12800 рублёў.

Курс у абменніках значна вышэйшы, ён знаходзіцца ў дыяпазоне ад 13600 да 14300 рублёў за куплю/продаж.

На рынках лічаць даляр па 14000—15000 рублёў.

Нацбанк паскоранымі тэмпамі прыводзіць гэтыя лічбы да агульнага назоўніка. Адмяняюцца і ранейшыя забароны. Напрыклад, банкі зноў пачалі выдаваць спажывецкія крэдыты, праўда, пад драконаўскія 70—80%

На якім узроўні курс зафіксуецца праз месяц, паўгода, год?

Беларусь дорага плаціць за палітычныя і эканамічныя памылкі. За снежань золатавалютныя рэзервы ўпалі да $5 мільярдаў, гэта найменшы паказчык з крызіснага 2011 года.

За адзін месяц яны скараціліся на 761 мільён. Гэта крайне, крайне трывожны паказчык. З такімі тэмпамі праз пару месяцаў краіна можа апынуцца ў тым стане, у якім яна была ў 2011 годзе. Патрэбна тэрміновая змена дзяржаўнай палітыкі і прыйдзецца шукаць новыя замежныя крэдыты.

Толькі адзінкавыя эканамісты рызыкуюць даваць прагнозы наконт далейшага разгортвання падзей. Напрыклад, фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра «Альпары» ў Мінску Вадзім Іосуб мяркуе, што курс даляра на працягу года вырасце да 17 тысяч.

**Ягор Марціновіч**

# З кнігарні «логвінаЎ» спаганяюць мільярд рублёў

**У Мінску пачаўся суд над культавай інтэлектуальнай пляцоўкай.**



У Эканамічным судзе сталіцы разглядаецца адміністратыўная справа па «незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці» кнігарні «логвінаЎ».

Першае пасяджэнне доўжылася каля 50 хвілін. У прасторным, але замалым для адкрытых пасяджэнняў кабінеце суддзі. І пакуль каля трыццаці чалавек тоўпіліся ў калідоры, суддзя Сяргей Кулакоўскі выслухоўваў бакі. Прадстаўнік падатковай інспекцыі выказваў свае прэтэнзіі. Ігар Логвінаў з адвакатам даводзілі няслушнасць заўваг.

У снежні ў кнігарні «логвінаЎ» раптоўна з'явілася пазапланавая падатковая праверка. Памяшканне апячаталі, праверылі дакументы. За выяўленыя парушэнні выставілі штраф — 961 мільён рублёў (на сёння гэтая сума ў даляравым эквіваленце знізілася на $20 тысяч — прыкладна да $65 тысяч). Цяпер гэтую суму і будуць спаганяць праз суд. Галоўная ж прэтэнзія падатковай — праца без ліцэнзіі Міністэрства інфармацыі. Такое нованаўвядзенне — ліцэнзія на кніжны гандаль — з'явілася са студзеня 2014 года. Логвінаў восем разоў звяртаўся па яе ў міністэрства, але ўсё атрымліваў адмову. Цяпер дзеянні Мініінфармацыі ён абскарджвае ў Вярхоўным судзе.

І хаця на першым пасяджэнні ў Эканамічным судзе ні пра якія сумы гаворкі яшчэ не вялося, Ігар даводзіў суддзі, што амаль мільярд — гэта не прыбытак, а сума абароту. А кнігарня рэальна працуе «ў нуль».

Цяпер кнігарня аформлена не на Логвінава, а на юрыдычную асобу. Ігар спадзяецца, што гэта ўсё-такі дазволіць атрымаць ліцэнзію і кнігарня працягне працу.

Па словах Логвінава, па выніках суда пагражае штраф у 500 базавых велічынь (90 мільёнаў рублёў) з канфіскацыяй даходу, атрымага ў выніку такой дзейнасці, альбо без канфіскацыі, альбо з пазбаўленнем права займацца вызначанай дзейнасцю. Праўда, калі прэтэнзіі падатковай суддзя Кулакоўскі прызнае абгрунтаванымі, да справы можа падключыцца Дэпартамент фінансавых расследаванняў. Тады справа будзе крымінальная — з іншым магчымым пакараннем.

Падтрымаць Ігара Логвінава на суд прыйшлі пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Альгерд Бахарэвіч, Уладзімір Сіўчыкаў, перакладчык Лявон Баршчэўскі, прадстаўнік грамадскай кампаніі «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў, праваабаронца Алена Танкачова.

Да 9 студзеня ў судзе абвешчаны перапынак.

Дарэчы, працэс праходзіць у былым будынку выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя». Гэта не адзіны выпадак. Так сталася з Коласаўскім ліцэем, у будынку якога ўжо колькі гадоў працуе суд Цэнтральнага раёна Мінска.

Кнігарня «логвінаЎ» з'яўляецца месцам шматлікіх кніжных прэзентацый і гранічна значнай для нацыянальнай культуры і літаратуры прасторай.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сціслa

**Рэйтынг Лукашэнкі пахіснуўся**

НІСЭПД апублікавала вынікі сацыялагічнага даследавання. Калі ў верасні за Аляксандра Лукашэнку гатовыя былі галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах 45,2%, то ў снежні — ужо 40%. Не ўказваецца, апытанне праводзілася да чарговага валютнага крызісу, які пачаўся 19 снежня, або пасля.

**«Цэх» выганяюць з завода**

Творчая майстэрная «Цэх», якая здымала памяшканне ў БСБ-Банка, вымушаная шукаць новае месца. Дамова арэнды не будзе працягнутая з 13 лютага.

**Кантралёры стануць непрыкметнымі**

З 10 студзеня ў кантралёраў мінскага транспарту з'явяцца новыя камізэлькі. Яны будуць абсалютна някідкія — больш цёмнага сіняга колеру, з іх знікнуць салатавыя палоскі і буйны надпіс «Мінсктранса» як з пярэдняй часткі камізэлькі, так і са спіны. Застанецца толькі невялікі бэйдж на левым баку камізэлькі.

**Запраўкі А-100 перайшлі на беларускую мову**

Афіцыйна пра гэта не абвяшчалася, але рэальныя крокі зробленыя. Касіры цяпер адказваюць кліентам па-беларуску. Для супрацоўнікаў праводзілі спецыяльныя трэнінгі. Кампанія А-100 належыць бізнэсмену Аляксандру Цэнцеру.

**ЯМ**

## Апытанні на nn.by

**Каго Вы выбралі б Чалавекам года Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| Міхал Жызнеўскі і героі Майдану | 747 | 35% |
| Дар'я Домрачава, пераможца Алімпіяды | 493 | 23% |
| Франак Вячорка і папулярызатары вышыванак | 193 | 9% |
| Віталь Гуркоў, Сяргей Міхалок і Brutto | 144 | 7% |
| Генадзь Карпаткевіч — прагрaміст-вундэркінд | 89 | 4% |
| Нікога | 202 | 10% |
| А ён у нас хіба мяняецца, той «чалавек года»? | 250 | 12% |

Прагаласавала 2 118 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 24 снежня—6 студзеня

1 Аляксандр Рыбак: Больш я гэтую сістэму абараняць не буду!

2 Міліцыянт у Мінску: Бел-чырвона-белы сцяг забаронены? Кім? Няма такога закону

3 На перамовах у Маскве каля Лукашэнкі паставілі таблічку «Республика Белорусcия» ФОТАФАКТ

4 Ці ўпікне Лукашэнка Косінца за сына? Пяць фактаў пра новага кіраўніка Адміністрацыі Аляксандра Косінца

5 Якія тры здымкі стаялі за Лукашэнкам падчас навагодняга звароту? ФОТАФАКТ

6 Багданкевіч: «Павел Калаўр — найлепшы варыянт». Пяць фактаў пра новага старшыню Нацбанка

7 Першая жанчына — віцэ-прэм'ерка. Пяць фактаў пра Наталлю Качанаву

8 Міхаіл Жураўкоў стаў доктарам навук у 32 гады — хто ён, новы міністр адукацыі?

9 «Мясніковічы ніколі ў КДБ працаваць не будуць!»

10 Лукашэнка: Я стану прэзідэнтам, нават калі ўвесь свет супраць

# Ці ўпікне Лукашэнка Косінца за сына?

Аляксандра Косінца **вярнулі з Віцебска ў Мінск**. Цяпер ён кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта.

### З вёскі Роскі Сялец

Аляксандр Косінец нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Роскі Сялец, за 15 кіламетраў ад Оршы. Летась быў апублікаваны невялікі рэпартаж з радзімы Аляксандра Косінца на сайце belhist.ru. З яго вынікае, што ў вёсцы па-ранейшаму жыве родная цётка Косінца Вера Мікалаеўна Лапо. А вось маці старшыні аблвыканкама пераехала ў горад. А бацькі ў жывых ужо няма.

Аляксандр Косінец зрабіў выдатную кар'еру ў медыцыне. Ён быў вядомым у краіне хірургам. Ужо ў 37 гадоў стаў прафесарам. Мала хто з медыкаў можа пахваліцца такім. Кажуць, што ўсё гэта было заслужана. Ён аўтар мноста навуковых публікацый і манаграфій. Напрыклад, «Нырачна-клетачны рак» (2002), «Пратэіназы і іх інгібітары ў гнойнай хірургіі і анкалогіі» (2003). У 1997-м стаў рэктарам Віцебскага медуніверсітэта.

### Сын таксама медык, але ў Маскве

Сын Аляксандра Косінца Уладзімір пайшоў дарогай таты. Ён паступіў у Віцебскі медуніверсітэт, на лячэбны факультэт, які скончыў у 2006 годзе. А ўжо ў 2009 абараніў кандыдацкую работу на тэму «Карэкцыя біяэнергетычных працэсаў у мышачнай тканцы тонкай кішкі пры распаўсюджаным гнойным перытаніце».

На гэтым сваю адукацыю Уладзімір Аляксандравіч Косінец не завяршыў. Удасканальваць яе ён паехаў у Расію, дзе ў 2013-м абараніў доктарскую дысертацыю ў Першым Маскоўскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце імя Сечанава. Яму ўсяго 32 гады, але на рахунку маладога медыка звыш 80 навуковых работ, у тым ліку «адзін падручнік, тры манаграфіі і пяць вынаходніцтваў».


СЯРГЕЙ СЕРАБРО, «НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА»

Працуе ён таксама ў Маскве, у Еўрапейскім медыцынскім цэнтры, у аддзяленні пластычнай хірургіі.

Прыярытэтам у працы Уладзіміра Косінца з'яўляецца: павелічэнне грудзей пры дапамозе імплантантаў, падцяжка грудзей, контурная пластыка цела.

Цікава, ці будзе абурацца Лукашэнка тым фактам, што сын Косінца з'ехаў за мяжу, як нядаўна абураўся дзецьмі былога міністра адукацыі Маскевіча, якія жывуць у ЗША?

### Дом у Драздах

Калі Косінца перавялі ў Віцебск у 2008-м, то ён, здаецца, ні на хвілінку не засумняваўся ў тым, што вернецца назад у Мінск. Не адмаўляўся і ад участка ў Драздах, іншыя старшыні аблвыканкамаў такой маёмасці ў Мінску не маюць.

### Альгерд у Віцебску

У Віцебску Косінец развіў бурную дзейнасць. Напрыклад, пабудаваў у цэнтры горада піраміду, амаль як у егіпецкай Гізе, пры гэтым знесці колькі будынкаў старога горада. А на цэнтральнай плошчы паставіў самую вялікую ў краіне навагоднюю ёлку. Відавочна, што рабілася гэта, каб звярнуць на Віцебск увагу. «Віцебская ёлка не саступае мінскай», — пісалі ў 2009-м годзе абласныя выданні.

Праўда, з ялінкай той выйшаў казус. І ў гісторыю яна ўвайшла тым, што на яе бел-чырвона-белы сцяг узняў актывіст КХП-БНФ Сяргей Каваленка, якога пазней судзілі за гэта.

Сярод пазітыўных рэчаў — адкрыццё ў Віцебску помніка вялікаму князю Альгерду, хоць спадары русафілы і пісалі шматлікія лісты абурэння.

**Зміцер Панкавец**

# Першая жанчына — віцэ-прэм'ерка

Адказнай ва ўрадзе за сацыяльныя пытанні стала кіраўніца Наваполацка Наталля Качанава, якая замяніла Анатоля Тозіка.

У незалежнай Беларусі яшчэ не было ніводнай жанчыны, якая б займала такую высокую пасаду. На сёння сярод усіх рай— і гарвыканкамаў краіны толькі ў двух кіравалі жанчыны. Апроч Качанавай у Наваполацку, гэта глухі Добрушскі раён, дзе старшынюе Вольга Мохарава. Мала ў нас выходзіць «крэпкіх хазяйственніц».

### Руская па нацыянальнасці

Наталля Качанава нарадзілася ў 1960-м у Полацку. У афіцыйнай біяграфіі напісана: «Па нацыянальнасці — руская». Скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут (1981) па спецыяльнасці «водазабеспячэнне і каналізацыя», а таксама Акадэмію кіравання (2006) па спецыяльнасці «дзяржаўнае кіраванне нацыянальнай эканомікі».



У Наталлі Качанавай ёсць двое братоў. «Мы — дружная, рабочая сям'я, бацькі — людзі вельмі простыя: тата працаваў у ліцейна-механічным цэху кавалём, брыгадзірам; мама ўсё жыццё адпрацавала на швейнай фабрыцы. Дома заўсёды, колькі яе памятаю, шыла і вязала — чаго я, напрыклад, не ўмею!» — казала Качанава ў інтэрв'ю.

### Мае дзвюх дачок

Новы віцэ-прэм'ер замужам, мае дзвюх дачок. «Хачу сказаць, што ў нас з мужам выдатныя дзеці, я іх вельмі люблю, і ў мяне ніколі, паўтаруся, ніколі не ўзнікала з імі праблем», — казала Наталля Качанава.

Старэйшая дачка Вольга вучылася на бюджэце ў Мінскім медыцынскім універсітэце, з мужам пазнаёмілася падчас вучобы на педыятрычным факультэце. У пары ёсць сын. Жывуць у Мінску.

Алена — другая дачка. Яна скончыла Полацкую гімназію, а цяпер вучыцца на гісторыка-філалагічным факультэце ПДУ. Сама спадарыня Наталля кажа, што дачка не надта любіць афішаваць, кім працуе яе мама.

«Я бачу, з якім гонарам гаворыць пра Беларусь мая малодшая дачка», — казала старшыня гарвыканкама.

### Марыла быць выхавацелькай

Усё дзяцінства Наталля Качанова ўсур'ёз займалася спортам. Спачатку — лёгкай атлетыкай, а пасля — валейболам. Хаця пра спартовую кар'еру, кажа, не марыла. Вельмі хацела быць выхавацелькай у дзіцячым садку, а ў НПІ паступіла выпадкова, дзякуючы спорту. Да іх на валейбольную пляцоўку прыходзіла выкладчыца інстытута, якая і сказала: «А паступайце да нас, будзеце вучыцца і займацца валейболам».

«Я, напрыклад, з сям'ёй да 30 гадоў пражыла на агульнай кухні. У нас не было ванны, гарачай вады — гэта той дом, у якім мы жывём да гэтага часу. Там сёння таксама ёсць агульныя кухні. А тады і мы жылі з суседзямі і не лічылі, што ў нас штосьці дрэнна», — казала яна ў 2011-м.

**ЗП**

**Каго прызначылі яшчэ**
**Сяргей Налівайка** — міністр па падатках і зборах
**Віталь Воўк** — міністр прамысловасці
**Уладзімір Зіноўскі** — міністр эканомікі
**Андрэй Гаеў** — кіраўнік Дзяржаўнага камітэта па маёмасці
**Мікалай Снапкоў, Ігар Бузоўскі** — намеснікі кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта
**Анатоль Ліс** — старшыня Брэсцкага аблвыканкама
**Мікалай Шэрстнеў** — старшыня Віцебскага аблвыканкама
**Уладзімір Даманеўскі** — старшыня Магілёўскага аблвыканкама
**Іна Мядзведзева** — старшыня Белстата
**Дзмітрый Кацярыніч** — кіраўнік холдынга «Белаўтамаз»

# Андрэй Кабякоў — новая другая асоба краіны

Месца Міхаіла Мясніковіча заняў 54-гадовы **кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта**.

### Нарадзіўся ў Маскве

Бацька новага прэм'ер-міністра родам з-пад Тулы, а маці — з тэрыторыі цяперашняга Санкт-Пецярбурга. Зрэшты, Андрэй Кабякоў жыве на тэрыторыі Беларусі з трох гадоў.

На гістарычную радзіму яму давялося выправіцца ў якасці пасла. Праўда, прабыў ён на гэтай пасадзе менш за год (ад лістапада 2011).

Аляксандр Лукашэнка часта прызначае на важныя пасады неўраджэнцаў Беларусі. Такія людзі апрыёры не могуць вырасці ў канкурэнтаў яму.

### Скончыў авіяцыйны інстытут

Кабякоў атрымаў добрую адукацыю. У 1983 годзе ён



скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут. Паступіць туды ў 1970-я было нялёгкай справай. Праўда, у лётчыкі хлопец не пайшоў. У год абвяшчэння незалежнасці Кабякоў яшчэ скончыў наргас і Інстытут паліталогіі і сацыяльнага ўпраўлення КПБ.

### Пратэжэ Даўгалёва

Ён вярнуўся ў Беларусь, дзе спачатку папрацаваў на заводзе імя Вавілава ў Мінску, а потым перайшоў на рагачоўскі завод «Дыяпраектар».

У той час на заводзе працаваў Васіль Даўгалёў. Калі ён у 1994-м стаў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, перацягнуў калегу за сабой у Мінск. Кабякоў стаў намеснікам начальніка Службы кантролю, аналага сённяшняга КДК. Пасля таго так і не выпадзе з уладнай абоймы. У яго былі пасады старшыні Камітэта дзяржкантролю, міністра эканомікі, віцэ-прэм'ера.

### Лукашэнка хрысціў сына Кабякова?

Ходзіць такая байка, што аднойчы Андрэй Кабякоў папрасіў Аляксандра Лукашэнку стаць хросным бацькам сына віцэ-прэм'ера. І Лукашэнка, як ні дзіўна, згадзіўся. Пасля гэтага кіраўнік дзяржавы заўсёды меў пэўны піетэт да Кабякова.

**ЗП**

**Фотафакт**



### Віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі цяпер і 15 гадоў таму

Першым віцэ-прэм'ерам прызначаны Васіль Мацюшэўскі. Ён заняў месца Уладзіміра Сямашкі, які спусціўся на прыступку ніжэй: цяпер ён проста віцэ-прэм'ер.

Васіль Мацюшэўскі нарадзіўся ў 1969 годзе ў Оршы. Пасля заканчэння БДУ па спецыяльнасці «палітычная эканомія» (1991) ён паступіў у аспірантуру. Па выніках навучання Мацюшэўскі абараніў у 1995 годзе кандыдацкую дысертацыю па тэме «Канцэптуальныя асновы фарміравання знешнеэканамічнай палітыкі Беларусі».

У красавіку 1994 ён прыйшоў у Нацбанк. Тут ён затрымаўся да 2010 года з перапынкам на год працы дарадцам у Міністэрстве фінансаў. У Нацбанку Мацюшэўскі спачатку быў галоўным эканамістам аддзела, а з цягам часу дарос да намесніка старшыні праўлення.

**ЯМ**

# Ці зможа палескі самародак

Гісторыя жыцця **новага старшыні Нацбанка**.

«Сярод дзейных банкіраў Павел Калаўр — найлепшы варыянт», — кажа былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч, даведаўшыся пра прызначэнне свайго колішняга намесніка. У суботу 27 снежня 2014 года Аляксандр Лукашэнка назваў Паўла Калаўра новым старшынёй Нацбанка.

За дзень да таго падчас нарады па эканамічных пытаннях Надзея Ермакова, яшчэ ў статусе кіраўніцы Нацбанка, расказвала пра далейшыя планы: «З улікам сітуацыі не выключана, што [валютны] збор будзе адменены раней [за 1 лютага]. Можа быць, ён будзе адмяняцца паступова».

У гэты час 52-гадовы старшыня праўлення банка «БелВЭБ» Павел Калаўр ужо ведаў, што змагацца з валютным крызісам давядзецца яму, а не Ермаковай. Банкір акурат вярнуўся са Століншчыны, з роднай вёскі Белавуша, дзе паспеў паведаміць сваякам пра новае прызначэнне.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Павел Калаўр**

Нарадзіўся ў 1962 у вёсцы Белавуша на Століншчыне. Скончыў Пінскі ўліковакрэдытны тэхнікум (1980), Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава (1985). Кандыдат эканамічных навук (2001).

Працаваў у Стаўбцоўскім, Бярэзінскім, Валожынскім аддзяленнях Дзяржбанка СССР (1985—1987), узначальваў Валожынскае аддзяленне Аграпрамбанка СССР (пасля — «Белаграпрамбанка») (1988-1993).

У 1993—2010 працаваў у сістэме Нацбанка, спачатку намеснікам старшыні праўлення, з 1999 — першым намеснікам. У 2010—2014 — старшыня праўлення банка «БелВЭБ». У канцы 2014 заняў пасаду старшыні праўлення Нацбанка.



### Татарская шляхта

Калаўр разглядаўся ў якасці кандыдата на пасаду старшыні Нацбанка яшчэ ў 2011-м, калі тэрмінова шукалася замена захварэламу Пятру Пракаповічу. Але тады выбар быў зроблены на карысць «шклоўскай» Надзеі Ермаковай, тагачаснай кіраўніцы «Беларусбанка».

Чаму ўсё ж не Калаўр? Родная сястра Паўла Уладзіміравіча лічыць, што ў высокіх чыноўнікаў узніклі пытанні да дзіўнага прозвішча банкіра: ці не яўрэйскае яно? У выніку Калаўра пакінулі ў кадравым рэзерве. Вось такі vox populi.

Існуе некалькі варыянтаў паходжання прозвішча, але ніводнае з іх не мае сувязі з габрэямі. Некаторыя даследчыкі звязваюць прозвішча са словам «караўул», а дакладней, яго ным цюркскім адпаведнікам «кара авыл» («ахоўвай пасяленне»).

Так ці інакш, прозвішча «Калаўр» было ўключана ў даследаванне «Гербоўнік родаў татарскіх у Польшчы».

На Піншчыне ёсць вёска Калаўравічы, радавы маёнтак шляхціцаў Калаўраў. Іхні старажытны герб «Астоя» ўпершыню з'явіўся ў XI стагоддзі. На ім намаляваныя два залатыя паўмесяцы, паміж якімі знаходзіцца меч.

### У роднай вёсцы жыве тры тысячы чалавек

Вёска Белавуша пад Столінам, дзе нарадзіўся Калаўр, — нетыповая для Беларусі. Па-першае, яна ўражвае сваімі памерамі. Ад аднаго канца вёскі да другога — каля 7 кіламетраў, гэта як ад плошчы Незалежнасці да Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску. Нумарацыя дамоў на цэнтральнай вуліцы «Леніна» пераваливае за 300!

Па-другое, паглядзеўшы на Белавушу, ніколі не скажаш, што беларуская вёскі выміраюць. Тут жыве каля 3 тысяч чалавек. У некаторых сем'ях гадуюць па дзесяць дзяцей і нават больш. Тлумачэнне прыросту насельніцтва простае — тут шмат евангелістаў.

Недалёка ад Белавушы знаходзіцца вядомая вёска Альшаны, агурковая сталіца Беларусі. Зямля ў Белавушы такая ж урадлівая, таму фермеры заўсёды шукаюць ахвотных працаваць. Аплата фіксаваная — 200 тысяч рублёў за дзень. Работнікі атрымліваюць грошы на рукі, але піць не ідуць.

Пра Калаўра ў Белавушы ведаюць усё. Бабулі называюць 52-гадовага банкіра ласкава: «наш Паўлік». У вёсцы дагэтуль жывуць яго ныя старэнькая маці і сястра. Бацьку пахавалі некалькі месяцаў таму.

...За два дзясяткі гадоў працы на найвышэйшым узроўні Павел Калаўр напісаў з дзясятак артыкулаў для «Банкаўскага весніка» і даў некалькі інтэрв'ю. Але адзіная фраза «пра асабістае» ў іх — згадка, як ён хадзіў на балет «Шчаўкунок» у выкананні эстонскіх танцораў.

Ніна, сястра старшыні Нацбанка, агарошвае з парога: «Ніякіх журналістаў. Брат забараніў расказваць пра сябе хоць што-небудзь. Ён заўсёды кажа: «Мае пытанні вырашаю я сам». У нас так заведзена з дзяцінства».

Але пазней яна ўсё ж пускаецца ва ўспаміны. Бацькі, Уладзімір і Ганна Калаўры, былі аднагодкамі. Абое мясцовыя, з Белавушы. Яны ажаніліся дваццацігадовымі. У сям'і было трое дзяцей, Павел — самы малодшы.

«Ён быў схільны да матэматыкі. Яму дома ніколі не трэба было чытаць. Калі настаўнік сказаў, ён запомніў. Выдатная памяць была», — узгадвае сястра.

У 15 гадоў Павел вырашыў паступаць у Пінскі ўліковакрэдытны тэхнікум (цяпер Палескі ўніверсітэт). Бацькі тады моцна хварэлі. «Мама з татам сталі на калені: «Госпадзі, толькі б не паступіў і вярнуўся дамоў». А ён прыязджае з Пінска і паказвае: вось, мама, маё імя ў газеце! Дзве «пяцёркі» атрымаў... Гэтаксама было, як у Мінск паступаў. Сродкаў малавата было... І таксама прасілі Бога, каб ён не прайшоў, каб вярнуўся дадому дапамагаць па гаспадарцы. Вось такі лёс быў», — расказвае Ніна Уладзіміраўна.

У 1980-м, скончыўшы тэхнікум, Калаўр стаў студэнтам дзённага аддзялення наргаса, вучыўся па спецыяльнасці «фінансы і крэдыт».

Жыццё ў сталіцы было складаным. «Днём вучыўся, а ў начныя змены разгружаў вагоны. Стыпендыя ў тыя часы была слабенькая, а ў бацькоў асаблівых рэсурсаў не было... Гэта не тое, як па блаце нехта праскочыў. Ён з-за сваёй галавы далёка пайшоў», — пераканаеная сястра.

Нягледзячы на выпрабаванні, Павел скончыў універсітэт з чырвоным дыпломам. На Захадзе пра такіх, як ён, кажуць self-made man — усяго дасягнуў сам.

### Праца ў правінцыі і вяртанне ў Мінск

Пасля наргаса Калаўр пачаў кар'ерны ўздым у раённых аддзяленнях Дзяржбанка СССР. У Стоўбцах ён быў эканамістам, у Бярэзіне — намеснікам кіраўніка, а ў Валожыне ўзначаліў аддзяленне. Гэты шлях заняў два з паловай года.

У 1987-м у СССР адбылася рэформа, падчас якой былі створаныя спецыялізаваныя галіновыя банкі — «Ашчадбанк», «Знешэканомбанк», «Прамбудбанк» і іншыя. Раённыя аддзяленні Дзяржбанка, якія перадусім абслугоўвалі сельскую гаспадарку, перайшлі ў падпарадкаванне «Аграпрамбанка».

Так Калаўр стаў кіраўніком Валожынскага аддзялення «Аграпрамбанка». Пасля развалу СССР і акцыянавання назва змянілася на «Белаграпрамбанк». Першым старшынёй праўлення банка быў абраны Міхаіл Чыгір, будучы першы прэм'ер-міністр Беларусі.

«У 1993-м па ўзгадненні з Чыгіром я забраў Калаўра да сябе ў Мінск», — узгадвае Станіслаў Багданкевіч, тагачасны кіраўнік Нацбанка.

Узлёт Калаўра быў ашаламляльным — адразу на пасаду намесніка старшыні Нацбанка. «Ён не толькі служыў, але і адстойваў сваю пазіцыю», — кажа Багданкевіч.

У Нацбанку Павел Калаўр затрымаўся на доўгія 17 гадоў. Ён працаваў пад кіраўніцтвам і Станіслава Багданкевіча, і Тамары Вінніковай, і Пятра Пракаповіча. З цягам часу стаў першым намеснікам старшыні Нацбанка.

### «За» і «супраць» манетарнага саюза

Пачынаючы з сярэдзіны 1990-х Расія настойвала на пераходзе Беларусі на агульную валюту — статус саюзнай дзяржавы абавязваў. Беларуская эліты млява ігнаравалі патрабаванні ўсходняга суседа.

Эканамічныя перадумовы і наступствы манетарнага саюза сталі тэмай дысертацыі Паўла Калаўра, якую ён абараніў у 2001-м у БДЭУ. «На мой погляд, ён займаў слушную пазіцыю: маўляў, не трэба пераходзіць на расейскі рубель, пакуль не будзе поўнай эканамічнай інтэграцыі», — кажа Станіслаў Багданкевіч. Прысутныя на абароне дысертацыі ўзгадвалі, што Калаўру давялося няпроста, калі ён адстойваў сваю навуковую працу.

«У дысертацыі ён захаваў незалежную пазіцыю. А наргас заўсёды быў кансерватыўным, на ўзроўні дацэнтаў і прафесараў заставалася шмат «саўковых» людзей», — тлумачыць Багданкевіч.

У артыкуле (сумесным з Ігарам Русакевічам) у «Банкаўскім весніку» за люты 2000 Калаўр аналізаваў плюсы і мінусы адмовы ад нацыянальнай валюты. Сярод патэнцыйных пераваг для беларускай эканомікі даследчыкі называлі знікненне камісійных выдаткаў, звязаных з абменам грошай на расійскія рублі, а таксама стымуляванне гандлю між дзвюма краінамі. «Але адмова ад валютнага курса — гэта адмова ад самастойнай грашова-крэдытнай палітыкі», — папярэджваў Калаўр. Ён заклікаў больш глыбока даследаваць наступствы валютнага саюза.

### За 10 год — тры дэвальвацыі

Дзякуючы таннай расійскай нафце, 2000-я былі гадамі імклівага росту беларускай эканомікі.

«Я ўсё пыталася ў яго: «Брат, калі вернеш грошы з ашчадных кніжак?» — узгадвае сястра банкіра. — А ён мне: «Колькі нарадаў было, столькі я падымаў гэтае пытанне, але мяне ніхто не падтрымлівае...»

Сусветны крызіс падкасіў дабрабыт насельніцтва. 20%-ная аднамомантавая дэвальвацыя, якую ўлады зрабілі ў 2009-м наўпрост на Новы год, шакавала многіх. Але беларусы абышліся малой крывёю, калі параўнаць тую сітуацыю з наступнымі абваламі рубля.

У 2011-м, калі з крызісам марна змагаліся Пракаповіч, а пасля і Ермакова, курс вырас амаль утрая.

Калаўра ў іх шэрагах ужо не было. За паўгода да абвалу ён сышоў з Нацбанка. Зрэшты, не ён адзін.

### Намеснікі Пракаповіча перайшлі ў прыватныя

У пачатку 2010-х кіраўніцтва Нацбанка істотна змянілася. Намеснікаў Пятра Пракаповіча

# выратаваць эканоміку Беларусі?


VK.COM

Вясельнае фота Уладзіміра Калаўра.


VK.COM

Аляксей Калаўр.

адпусцілі ў свабоднае плаванне. Банкаўскую эліту завабілі да сябе беларускія дочкі расійскіх банкаў. Расейцы былі гатовыя плаціць вялікія грошы за вопытных спецыялістаў, якія мелі сувязі з дзяржаўным апаратам.

Павел Калаўр узначаліў банк «БелВЭБ», з цягам часу на пасаду ягонага намесніка перацягнулі Мікалая Лузгіна. Васіль Мацюшэўскі стаў кіраваць «БПС-Сбербанкам». А Юрый Алымаў цяпер — незалежны дырэктар ВТБ. Усе яны былыя намеснікі старшыні Нацбанка.

Банкіры сыходзілі працаваць на расейцаў са згоды Аляксандра Лукашэнкі. Мяркуючы па ягоных словах, пры гэтым яны давалі нейкія абяцанні. «Я пакуль ад іх абяцанай у свой час працы і аддачы не бачу. Гэта асобная размова», — абмовіўся ў 2013-м Лукашэнка. А за год да таго ён увогуле называў банкі з замежным капіталам «замежнымі агентамі».

## Выгадная праца на Расію

Што такое «БелВЭБ», які у 2011-м узначаліў Калаўр? Гэта беларуская дачка расійскай дзяржаўнай карпарацыі «Внешэкономбанк». У савецкі час банк забяспечваў экспартна-імпартныя аперацыі, а ў цяперашняй Расіі выконвае ролю «банка развіцця». Напрыклад, крэдытаваў будаўніцтва інфраструктуры ў алімпійскім Сочы, рэканструкцыю нафтаперапрацоўчых заводаў і аэрапортаў. Старшынёй назіральнай рады «Внешэкономбанка» з'яўляецца прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў. Не дзіва, што летась банк трапіў пад санкцыі Захаду.

Працаваць у такой структуры звышвыгадна для беларускіх банкіраў. Знаходжанне на дзяржаўнай службе, у тым ліку ў Нацбанку, дае статус, але не дае грошай. Па словах Надзеі Ермаковай, апошнім часам яна зарабляла каля $2000 на месяц.

На якія сумы мог разлічваць Калаўр у «БелВЭБе»? Па інтэрнэце гуляе ананімная справаздача аб ягоных прэміях за 2011 год — нібыта кіраўніку банка налічвалі па $30—40 тысяч у эквіваленце. Пацвердзіць ці абвергнуць гэтыя лічбы немагчыма, бо беларускія кампаніі і банкі не абвяшчаюць памер узнагароды сваім топ-менеджарам.

Аднак можна правесці аналогіі з Расіяй. У 2013 годзе старшыня праўлення «Внешэкономбанка» Уладзімір Дзмітрыеў атрымліваў сярэдні штомесячны даход $250 тысяч, за год да таго — па $210 тысяч. Дзмітрыеў быў фактычным кіраўніком Калаўра.

А Калаўр быў для расейцаў карысным работнікам. Пад ягоным кіраваннем чысты прыбытак «БелВЭБа» значна вырас, агулам за час старшынства ўдалося зарабіць амаль $200 мільёнаў.

**Чысты прыбытак «БелВЭБа»**

| | |
|---|---|
| 2014* | $36,4 мільёна |
| 2013 | $46,7 мільёна |
| 2012 | $46,4 мільёна |
| 2011 | $61,3 мільёна |
| 2010 | $20,7 мільёна |
| 2009 | $11,6 мільёна |
| 2008 | $7,2 мільёна |

*за тры кварталы года

## Падтрымліваў нацыянальныя праекты

Банкі па ўсім свеце займаюцца падтрымкай сацыяльных праектаў. Не выключэнне і наша краіна.

«Белаграпрамбанк» з'яўляецца генеральным спонсарам Нацыянальнага алімпійскага камітэта, а «Беларусбанк» — галоўны партнёр футбольнага чэмпіянату краіны. «БелВЭБ» таксама арганізоўваў спартыўныя мерапрыемствы, напрыклад, сусветнае першынство па веласпорце на трэку ў Мінску.

«Прынцыпова важна выбіраць кірункі спонсарскай падтрымкі, супрацоўніцтва, — тлумачыў Калаўр у інтэрв'ю tut.by. — Перадусім гэта тое, што звязана з нашай нацыянальнай культурай, узаемадзеянне з Нацыянальным гістарычным музеем, з тэатрамі».

Набываць гістарычныя артэфакты «БелВЭБ» пачаў даўно, аднак пры Калаўру быў набраны яшчэ большы размах.

Летась у Нацыянальным гістарычным музеі прэзентавалася выстава «Новае жыццё нацыянальных скарбаў» — чатыры залы калекцый «БелВЭБа». Сярод самых каштоўных экспанатаў — карта ВКЛ 1616–1630 гадоў, ініцыятарам выдання якой быў Мікалай Радзівіл Сіротка, унікальныя манеты канца XIX стагоддзя, а таксама «пояс Вітаўта».

Іншы вялікі праект — факсімільнае перавыданне поўнага збору кніг Францыска Скарыны. Мяркуецца, што да 2017-га на грошы «БелВЭБа» пабачаць свет 20 тамоў.

## Сям'я банкіраў

Бацькі Калаўра пражылі разам 63 гады. «З дзяцінства нас прывучыў бацька: нікому не давярай. Правярай, але не давярай», — узгадвае сястра Ніна. Па яе словах, Павел, нягледзячы на занятасць на працы, рэгулярна прыязджае ў родную вёску, дапамагае родным. «Стол — гэта заўсёды на ім. Можа і сам нешта прыгатаваць. Любімую страву не прыгадаю, бо даўно ж разам не жывём. Але я заўсёды частую яго сырнікамі», — кажа яна.

Яшчэ падчас вучобы ва ўніверсітэце Павел Калаўр пазнаёміўся з будучай жонкай Ларысай. Дзяўчына паходзіла з-пад Ліды. Цяпер яна — галоўны бухгалтар банка «Масква-Мінск», новым уласнікам якога стаў Нацбанк.

У сям'і Калаўраў выраслі двое сыноў. Сястра банкіра кажа, што дзеці з дзяцінства хацелі стаць «як бацька» і пайсці ягоным шляхам. Так яно і атрымалася.

Аляксей меў досвед працы ў Маскве, ягонае імя фігуравала сярод гульцоў валейбольнай аматарскай каманды «Связь-Банка» (99,5% акцый належыць «Внешэкономбанку»). Старшынёй рады дырэктараў «Связь-Банка» працуе Сяргей Васільеў, які яшчэ нядаўна па сумяшчальніцтве з'яўляўся старшынёй назіральнай рады «БелВЭБа». Але нядаўна на ягонае месца Аляксандр Лукашэнка вырашыў пасадзіць адстаўленую Надзею Ермакову. Таксама імя Аляксея Калаўра фігуравала ў якасці галоўнага менеджара «БПС-Сбербанка».

У ягонага брата Уладзіміра ў сацыяльнай сетцы таксама пазначана месца працы: «банк». Разам з жонкай Ірынай ён гадуе двух дзяцей.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Дом Калаўраў непадалёку ад Драздоў будаваўся па тым самым праекце, што ў Пятра Пракаповіча, толькі афарбоўка іншая.

## Маёнтак на вуліцы банкіраў

Як і многія іншыя ўплывовыя беларускія чыноўнікі, Павел Калаўр атрымаў ад дзяржавы магчымасць пабудавацца ў элітным раёне сталіцы. У 2007-м рашэннем Мінгарвыканкама быў створаны «пасёлак банкіраў» на вуліцы Вілейскай. Тагачасны старшыня Нацбанка Пятро Пракаповіч атрымаў 0,15 га, а ўсе ягоныя намеснікі — Павел Калаўр, Юрый Алымаў, Мікалай Лузгін, Уладзімір Сянько, Мікалай Кадушка і Васіль Мацюшэўскі — па 0,11 га.

Сям'я Калаўраў пабудавала двухпавярховы дом з дзвюма тэрасамі агульнай плошчай 407 $м^2$.

Кадастравая цана такога ўчастка, як у Калаўра, складае каля $175 тысяч. На рынку за такую зямлю з катэджам просяць да мільёна даляраў.

Яшчэ некалькі гадоў таму вуліца Вілейская была часткай катэджнага пасёлка, цяпер вакол яе пачалі будаваць шматпавярховікі новага мікрараёна «Ржавец» («Лебядзіны»), якія будуць навісаць над дамамі банкаўскай эліты.

## План Калаўра

На Паўла Калаўра ўскладзеныя вялікія чаканні. «Нацбанку даюцца самыя сур'ёзныя паўнамоцтвы для наладжвання нармальна функцыянуючай сістэмы банкаўскай справы ў краіне», — заявіў Аляксандр Лукашэнка, прадстаўляючы новага старшыню.

Што для гэтага трэба? Як мінімум уніфікаваць валютны курс. Пакуль жа ўвесь свет смяецца, убачыўшы лічбы на табло беларускіх абменнікаў — нібыта курс куплі вышэйшы за курс продажу.

Калаўр ведае, што рабіць. У 2000-м ён узначальваў групу па выхадзе на адзіны курс. Заклікаў да найхутчэйшай уніфікацыі і ў 2011-м.

Тое, што «нарабіла» Ермакова, Калаўр стаў разграбаць з першага дня працы.

Афіцыйны курс даляра за некалькі дзён вырас да 12 800 рублёў. Мяркуецца, што збліжэнне з курсам у абменніках (каля 14 000 рублёў) будзе працягвацца і надалей.

«На мой погляд, непрынцыпова, які прырост эканомікі будзе ў наступным годзе. ... Прынцыпова, каб мы выйшлі на ўзровень інфляцыі, які дазволіў бы казаць пра адназначны ўзровень інфляцыі — менш за 10%», — тлумачыў Калаўр сваё разуменне сітуацыі некалькі гадоў таму.

Але ці здолее ён адстаяць сваю пазіцыю цяпер? Такога ж, як ён, меркавання прытрымліваецца дарадца Лукашэнкі Кірыл Руды, але яму апошнім часам супрацьстаяў урад на чале з Міхаілам Мясніковічам пры маўклівай згодзе Адміністрацыі прэзідэнта ў асобе Андрэя Кабякова.

«Урад ніводнага кроку не мог рабіць без згоды Кабякова. Ён, па сутнасці, галоўны вінаваты ў крызісным абвале. І яго перасоўваюць на пасаду прэм'ера!» — абураецца Станіслаў Багданкевіч.

Былы старшыня Нацбанка хоць і кажа, што Павел Калаўр — найлепшая кандыдатура на ролю галоўнага банкіра, але заўважае, што ад яго ў цяперашняй сітуацыі мала што будзе залежаць: «Патрэбная сумесная праграма па пераходзе на новую мадэль рэгулявання эканомікі і новая эканамічная палітыка».

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

# Міхаіл Жураўкоў павядзе Беларусь у Балонскі працэс

Хто ён, новы міністр адукацыі?

Тэндэнцыя апошняга часу — Лукашэнка прызначае кіраваць адукацыяй фізікаў і матэматыкаў. Папярэднікам Жураўкова быў Сяргей Маскевіч, а перад тым міністрам быў Аляксандр Радзькоў.

Жураўкову 53 гады, ён нарадзіўся ў Салігорску, скончыў механіка-матэматычны факультэт БДУ (1984) і аспірантуру пры БДУ (1987). Тэмы ягонай кандыдацкай і доктарскай дысертацый супадаюць — «Механіка дэфармаванага цвёрдага цела». Доктарам фізіка-матэматычных навук Жураўкоў стаў ужо ў 32 гады.

Пасля заканчэння ўніверсітэта навуковец працаваў у інстытуце горна-хімічнай прамысловасці, адкуль перайшоў у «Беларуськалій». У 1993—1996 Жураўкоў быў намеснікам начальніка службы аўтаматызаванай сістэмы кіравання прадпрыемствам па распрацоўцы і ўкараненні.

Пасля на працягу года будучы міністр папрацаваў у БНТУ і перайшоў у альма-матар. У БДУ ён дайшоў да пасады дэкана механіка-матэматычнага факультэта, а пасля і да першага прарэктара.

У раздзеле «павышэнне кваліфікацыі» ў ягонай біяграфіі адзначана навучанне ў Хельсінкі, Берне, а таксама ў Сакле (Францыя).

Ягор Марціновіч




*Праз тыдзень пасля прызначэння новы міністр даў у сябе дома першае інтэрв'ю парталу Tut.by*

**Пра Балонскі працэс**

«Я спадзяюся, мне ўдасца дамовіцца з усімі структурамі, каб мы нарэшце назвалі рэчы сваімі імёнамі. Каб пасля 4 гадоў вучобы студэнт атрымліваў ступень бакалаўра, пасля чаго мог ісці на 1—2 гады ў магістратуру. Гэтыя змены нам дыктуе само жыццё, бо ўжо зараз нашых выпускнікоў у Расіі прыраўноўваюць да бакалаўраў».

Адна з перашкод для ўступлення Беларусі ў Балонскі працэс, кажа міністр, — недастатковая развітасць выкладання на англійскай, каб у нас па абмене мог вучыцца студэнт з любой краіны. Хоць ён прыводзіць і супрацьлеглы прыклад: навучанне па адной са спецыяльнасцяў у БДУІР з першага курса вядзецца выключна на англійскай.

**«Не трэба беларускамоўны ўніверсітэт»**

«Сёння не трэба рабіць выключна беларускамоўны ўніверсітэт. У нас жа ніхто не забараняе выкладаць на беларускай мове, і нават, напрыклад, на мехмаце БДУ дастаткова такіх выкладчыкаў. Шмат і студэнтаў, якія размаўляюць выключна па-беларуску, і з-за гэтага наогул не ўзнікае ніякіх праблем. Паміж усімі хлопцамі выдатныя адносіны».

Міністр лічыць, што з-за насаджэння студэнты не стануць лепш ведаць беларускую, бо гэта павінна ісці ад душы чалавека.

**Пра сістэму профільнай адукацыі**

«Да 10 класа будзе агульная для ўсіх праграма, а вось апошнія 2 гады будуць толькі профільнымі. Адна з прапаноў у тым, каб дзіця, якое трапіць у такі клас, не толькі здавала экзамены па профільных прадметах, але і мела пэўны бал атэстата. Такім чынам, адныя змогуць праціягваць у школе паглыблена вывучаць некаторыя прадметы, а іншыя пойдуць у каледж ці ліцэй атрымліваць прафесію».

Новая сістэма будзе ўкаранёная, але толькі для школьнікаў, якія сёння вучацца ў чацвёртым класе. «Дзіця мусіць разумець, што павінна вучыцца пэўным чынам, каб праз пяць гадоў трапіць у профільны клас», — кажа міністр.

**Пра знешні выгляд**

Міхаіл Жураўкоў кажа, што хадзіць у джынсах не прынята ў беларускай прафесуры і выкладчыкаў, і лічыць гэта не зусім правільным: «Праца з моладдзю прадугледжвае больш свабодную вопратку. Я бачу, як апранаюцца мае калегі на Захадзе, таму ніколі не быў супраць, каб, напрыклад, прафесар чытаў лекцыю ў джынсах і стылёвым швэдры. Я запланаваў сабе сустрэчы за кубкам чаю са студэнтамі, з маладымі настаўнікамі і выкладчыкамі. І калі рамкі гэтых мерапрыемстваў мне дазволяць, на іх я з'яўлюся дакладна не ў афіцыйным касцюме. Я хачу будаваць з моладдзю больш даверлівыя адносіны і лічу, што маладыя людзі павінны больш актыўна ўключацца ў кіраванне сферай адукацыі».

Паводле: Станіслаў Шаршукоў, tut.by

In memoriam

## Міністр, які стаў палітвязнем

Былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў памёр 4 студзеня на 77-м годзе жыцця. Ён увасходзіў ва ўрад на чале з Міхаілам Чыгіром.

Калі Чыгір і міністр працы Аляксандр Сасноў у знак пратэсту супраць рэферэндуму 1996 года падалі у адстаўку, Лявонаў выказаў нязгоду з Лукашэнкам, але не сышоў услед за імі.

У лістападзе 1997 у дачыненні да міністра была заведзеная крымінальная справа, арышт Лявонава наўпрост у працоўным кабінеце паказвалі па БТ. Праз некалькі дзён Аляксандр Лукашэнка заявіў пра датычнасць Лявонава да забойства Яўгена Мікалуцкага, намесніка старшыні КДК па Магілёўшчыне.

Аднак абвінавачванне развалілася, былога міністра судзілі за карупцыю. Лявонава прызналі палітвязнем.

Пасля выхаду на волю ён заняўся грамадскай дзейнасцю, спрабаваў арганізаваць рух «За новую Беларусь».

Апошнія гады жыцця Лявонаў жыў пад Мінскам, у Шчомысліцы.



На развітанне з ім у мясцовы Дом культуры прыйшло каля 100 чалавек — былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, былы прэм'ер Міхаіл Чыгір, былы віцэ-спікер Васіль Новікаў, былы міністр гандлю Пётр Казлоў, былы кіраўнік справаў прэзідэнта Іван Ціцянкоў, палітыкі Аляксандр Ярашук, Уладзімір Някляеў, Анатоль Лябедзька. А вось цяперашніх чыноўнікаў не было.

Пахавалі Васіля Лявонава на могілках у Строчыцах, таксама пад Мінскам.

**Васіль Лявонаў**

Нарадзіўся 16 красавіка 1938 в вёсцы Дубінец Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, Мінскую вышэйшую партыйную школу.

У 1967—1972 быў дырэктарам саўгаса «Мілаславіцкі» (Клімавіцкі раён), пасля 20 гадоў правёў на партыйнай службе — першым сакратаром Магілёўскага абкама КПБ, старшынёй Магілёўскага аблсавета.

У 1991—1993 быў гандлёвым прадстаўніком Беларусі ў Германіі, пераасэнсаваў погляды на развіццё эканомікі.

У 1994—1997 — міністр сельскай гаспадаркі Беларусі. Быў затрыманы ва ўласным кабінеце. У жніўні 1999 пакараны 4 гадамі зняволення з канфіскацыяй маёмасці. У лістападзе 2000 быў вызвалены па амністыі.

Перайшоў у апазіцыю да Аляксандра Лукашэнкі.

## «Еўраопт» у пяцёрцы самых прыбытковых

Міністэрства фінансаў Беларусі апублікавала справаздачы аб дзейнасці адкрытых акцыянерных таварыстваў, а таксама кампаній, якія выпускалі аблігацыі. Дадзеныя датычацца трэцяга квартала 2014 года.

За кошт абаротаў упершыню ў пяцёрку самых прыбытковых прабілася прыватная сетка крамаў «Еўраопт». А на адваротным баку рэйтынга — прамысловыя гіганты.

ЯМ

| | Кампанія | Прыбытак | | Кампанія | Страты |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | «Беларуськалій» | $552,6 мільёна | 1 | «Атлант» | -$42,8 мільёна |
| 2 | Мазырскі НПЗ | $221,2 мільёна | 2 | БелАЗ | -$29,4 мільёна |
| 3 | «Нафтан» | $104,4 мільёна | 3 | МТЗ | -$23,5 мільёна |
| 4 | Банк развіцця Беларусі | $98,2 мільёна | 4 | МАЗ | -$22,1 мільёна |
| 5 | «Еўрагандаль» | $66,5 мільёна | 5 | «Гомельшкло» | -$16,1 мільёна |

*па дадзеных Міністэрства фінансаў

## Запрацаваў антынаркатычны дэкрэт — узмацненне крымінальнай адказнасці і кантроль у інтэрнэце

Аляксандр Лукашэнка 28 снежня 2014 падпісаў дэкрэт «Аб неадкладных мерах па процідзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў». Дакумент ужо набыў моц.

Сярод зменаў — узмацненне адказнасці за злачынствы, звязаныя з незаконным абаротам наркотыкаў. Максімальны тэрмін пазбаўлення волі за збыт непаўналетняму вырастае з 8 да 15 гадоў, за збыт у складзе арганізаванай групы ці ў лабараторыі — да 20 гадоў. Калі ж спажывец памрэ ад наркотыкаў, то прадаўца могуць пасадзіць на 25 гадоў.

Караць будуць і за знаходжанне ў грамадскім месцы ў стане наркатычнага ап'янення. Спачатку штраф, а пры паўторным затрыманні могуць пасадзіць на 2 гады.

Прычым для асобаў, асуджаных за злачынствы, звязаныя з незаконным абаротам наркотыкаў, створаць асобныя папраўчыя калоніі.

Зніжаецца і ўзрост крымінальнай адказнасці за дзеянні, звязаныя са збытам наркотыкаў, — з 16 да 14 гадоў.

З наступнага года інтэрнэт-правайдары абавяжуць захоўваць інфармацыі аб сайтах, на якія заходзіць той ці іншы карыстальнік. Гаворка ў дакуменце вядзецца пра сайты, звязаныя з распаўсюдам наркотыкаў.

Апроч таго, на ўлік паставяць усіх наркаманаў. Адзіная сістэма ўліку запрацуе з 1 сакавіка 2015.

Пад удар трапілі і электронныя кашалькі. Уведзеная абавязковая ідэнтыфікацыя іх уласнікаў — каб не расплачваліся за наркотыкі праз інтэрнэт. Аднак гэта ўжо стварыла праблемы і для сумленных карыстальнікаў.

ЯМ

# Пад спайсамі сын зарэзаў маці

**Трагедыя напярэдадні Новага года.**

У Слоніме гараджане абмяркоўваюць страшнае забойства напярэдадні Новага года. 30 снежня сын зарэзаў маці. Мяркуецца, што хлопец быў пад наркатой — пад спайсамі.

Трагедыя адразу спарадзіла шмат чутак. «І руку адрэзаў», — пісалі на форумах каментатары. — «Не руку, а тры пальцы», — нібы ўдакладнялі іншыя. «Пішуць поўную лухту. Ніякіх вушэй, рук і што там яшчэ ён не адрэзаў», — паведаміў адзін з медыкаў Слоніма, які бачыў труп. Але раскрываць акалічнасці не стаў. У Следчым камітэце пацвердзілі факт забойства. Праводзяцца экспертызы. На целе жанчыны знайшлі не менш за сем нажавых раненняў.

Здавалася б, шчаслівая маладая сям'я 25-гадовага Жэні, гадаваў з жонкай малую дачку. Жылі ў Мінску. У Слонім наведваўся да бацькоў. Але вось не здрадзіў ранейшай звычцы: знаёмыя хлопца расказваюць, што быў за ім грашок — «балаваўся» марыхуанай і спайсамі. Сябры ведалі, але ці ведалі родныя? Вось і на гэты раз пакурыў, а пасля нешта яму ў галаве перамкнула: кінуўся з нажом на маці. А калі ўсвядоміў, што нарабіў, пачаў абтэлефаноўваць сяброў: прасіў, каб яго хуценька адвезлі ў Мінск.

«Затрымалі Яўгена дома. Хто выклікаў міліцыю, дакладна не ведаю, мо суседзі. Калі міліцыянты ўвайшлі і сказалі, каб Яўген лёг на падлогу, ён спачатку паслухаўся, а потым пачаў супраціўляцца, нават утраіх яго ледзь-ледзь скруцілі, і то не адразу. Гэта ж усё з-за спайсаў. Чалавек у ясным розуме такога б не зрабіў. Я калі даведаўся, нават не паверыў, — расказаў адзін са сваякоў хлопца. — Мы былі з ім у нармальных адносінах. Канфліктаў не было. Апошні раз яго бачыў прыкладна паўтарадва тыдні таму. Ён быў такі ж, як заўсёды, нармальны».

Забітай Валянціне было 48 гадоў, раней працавала ў падатковай інспекцыі. Цяпер муж і дачка засталіся без маці і брата. Апошняму свеціць немалы турэмны тэрмін. І лячэнне, калі нарказалежнасць пацвердзіцца.

**Сяргей Макарэвіч, Улад Швядовіч**

## У Віцебску забілі студэнта Ветэрынарнай акадэміі

**Пасварыўся з суседам падчас п'янкі.**

Раніцай 22 снежня ў інтэрнаце нежывым знайшлі студэнта Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны. Смерць наступіла ад пабояў.

«Грунтуючыся на дэталёвай ацэнцы сабраных доказаў, следствам прынята рашэнне пра затрыманне 21-гадовага студэнта той жа ВНУ. Выяўлена, што падазраваны, які пражываў у адным пакоі студэнцкага інтэрната з забітым, падчас сваркі, што ўзнікла пасля сумеснага распіцця спіртных напояў, нанёс яму множныя ўдары рукамі і нагамі, ад якіх апошні памёр на месцы», — паведамілі ў Следчым камітэце.

24-гадовы Юрый, якога знайшлі забітым, навучаўся на 3 курсе. Паходзіў з Пінска, дзе скончыў перад гэтым аграрнатэхнічны каледж па спецыяльнасці «заатэхнія».

Хлопец быў адзіным дзіцём у сям'і, расказала яго знаёмая. Бацькі развяліся і не жылі разам, і цяпер маці засталася зусім адна. Дзяўчына называе яго жыццярадасным чалавекам, «душой кампаніі».

У ноч здарэння хлопцы заходзілі ў інтэрнэт. Юрый быў на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках у 0.38, яго меркаваны забойца — у 2.21. «Яны ніколі надта блізка не сябравалі, проста кантактавалі як суседзі па пакоі», — адзначыла яго знаёмая.

— Праверка яшчэ працягваецца, вынікаў канкрэтных няма. І даваць каментары нейкія я не ўпаўнаважаны, — заявіў начальнік аддзела выхаваўчай работы Акадэміі ветэрынарнай медыцыны Ігар Муртазаеў.

Затрыманаму студэнту выстаўлена абвінавачанне ў забойстве. Ён знаходзіцца пад вартай.

**Сяргей Макарэвіч**

24-гадовы Юрый быў родам з Пінска.

## Страшнае ДТЗ у Жыткавіцкім раёне: 4 трупы і 10 параненых



**Украінцы вярталіся на радзіму з заробкаў.**

Аварыя з удзелам фуры і мікрааўтобуса здарылася на аўтадарозе Жыткавічы — Давыд-Гарадок — мяжа Украіны 30 снежня. Прадпрымальнік са Слуцка вёз на фуры груз кансерваванай кукурузы з Турава ў Баранавічы. Пры пад'ездзе да Жыткавіч кіроўца грузавіка паварочваў налева і не саступіў дарогу «Мерседэсу Спрынтару». Машыны сутыкнуліся, у выніку чатыры трое пасажыраў «немца» — двое мужчын і жанчына — загінулі на месцы, яшчэ дзесяць атрымалі раненні, як і кіроўца грузавіка.

«У мікрааўтобусе былі грамадзяне Украіны, якія ехалі транзітам праз Беларусь. Яны вярталіся на Украіну з Расіі, куды ездзілі працаваць», — паведаміла прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава. Везлі, знайчыца, сем'ям гасцінцы на святы.

Праз некалькі дзён колькасць ахвяр павялічылася. Яшчэ адзін пасажыр мікрааўтобуса памёр 4 студзеня ў рэанімацыі.

У дачыненні да кіроўцы фуры распачатая крымінальная справа за парушэнне ПДР, што пацягнула па неасцярожнасці смерць двух або больш асоб. Яму пагражае ад трох да сямі гадоў турмы.

**УШ**

## У Салігорску знік суддзя

**У горадзе яго памятаюць у тым ліку па судах над палітычнымі актывістамі.**


SHAHTER.BY

Упраўленнем Следчага камітэта па Мінскай вобласці распачата крымінальная справа па факце знікнення жыхара г. Салігорска, 1980 года нараджэння, які працуе ў Салігорскім раённым судзе.

15 снежня мужчына выйшаў з хаты ў невядомым кірунку і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядома. Пра яго знікненне ў праваахоўныя органы паведамілі сваякі.

Суддзя, якога шукаюць, — Сяргей Самуйлік. Маладога мужчыну шукаюць валанцёры выратавальна-пошукавага атрада «Анёл», міліцыя. Ратавальнікі некалькі дзён праводзілі пошукі на мясцовасці — у лесе ў Салігорскім раёне. У тым месцы апошні раз зафіксавалі сігнал яго мабільніка. Як паведаміў адзін з жыхароў горада, нібыта на працоўным месцы суддзі знайшлі і цыдулку. Да пошукаў падключаюцца і вадалазы.

У навінах прозвішча Самуйліка з'яўлялася некалькі разоў. Сёлета ён судзіў актывіста Уладзіміра Лемеша. На хлопца склалі пратакол нібыта за лаянку. Выхадныя ён правёў у ізалятары. А пасля суддзя Самуйлік прызнаў хлопца вінаватым і аштрафаваў на дзве базавыя (300 тысяч рублёў). Лемеш абскардзіў рашэнне, і Мінскі абласны суд адмяніў яго: суддзя Самуйлік «разгледзеў справу павярхоўна і належным чынам не даследаваў абставіны справы».

У верасні 2011 Самуйлік аштрафаваў старшыню прафсаюзу РЭП Генадзя Фядыніча за парушэнне закона аб масавых мерапрыемствах. Падставай паслужылі знойдзеныя ў яго машыне ўлёткі з запрашэннем на Народны сход. Фядыніча затрымалі перад яго сустрэчай з жыхарамі Салігорска.

У 2009 Сяргей Самуйлік разглядаў справу палітпрызыўніка Івана Шылы. Актывіста тады забралі ў войска, і ён спрабаваў праз суд давесці незаконнасць прызыву. Суддзя прызнаў дзеянні ваенкамата законнымі.

**СМ**

### Сцісла

**Суддзю застрэлілі на паляванні**

27 снежня суддзя Вярхоўнага Суда Віктар Ракіцкі адправіўся на паляванне ў Уздзенскі раён з сябрамі. Вырашылі ўпаляваць зайцоў. Але сам стаў ахвярай няўважлівага стралка: яго падстрэлілі, ад ранення мужчына памёр на месцы. Заведзена крымінальная справа.

**Падпаліў маці**

У вёсцы Сцяцкі Стаўбцоўскага раёна п'яны 25-гадовы хлопец пасварыўся з маці. Падчас сваркі ён абліў яе бензінам і падпаліў. 47-гадовая жанчына з тэрмічнымі апёкамі змешчана ў бальніцу. Падазраваны затрыманы. Заведзена крымінальная справа. Затрыманы раней быў неаднаразова судзімы.

**Пасадзілі будучага капітана**

У Веткаўскім раёне 18-гадовы ліцэіст асуджаны на 8,5 гадоў калоніі за гандаль спайсамі. Хлопец, які вучыўся ў Гомельскім ліцэі рачнога флоту, замаўляў тавар у абласным цэнтры, аплачваў яго з дапамогай электроннага кашалька, затым забіраў у схованках і перахоўваў ужо ў Ветцы, дзе і прадаваў. У тым ліку 15-гадовым падлеткам.

**Забойства ў Новы год**

Жыхар вёскі Мядкоў Светлагорскага раёна ў навагоднія святы зарэзаў сужыцельку і свайго брата. 47-гадовы вясковец раней ужо меў праблемы з алкаголем. Ён жыў разам з жанчынай, якая была маладзейшая за яго на тры гады, і яе 8-гадовым сынам. На святы з райцэнтра прыехаў і брат падазраванага. Аднак падчас святкавання пасварыліся, а скончылася ўсё панажоўшчынай. Пасля сам жа выклікаў «хуткую». Але ахвяры памерлі да прыезду медыкаў.

**Агрэсіўны крэдытор**

Увечары 25 снежня на аўтастаянцы аднаго з гандлёвых цэнтраў сталіцы на хлопца напалі чацвёра маладых людзей. Пасадзілі ў аўто і вывезлі ў лес да Мінскага мора. Там звязалі скотчам і патрабавалі вярнуць пазычаныя ў аднаго з нападнікаў грошы. Калі грошай так і не дачакаліся, збілі ахвяру і пакінулі звязаным у лесе. Праўда, хлопцу ўдалося вызваліцца. Ён звярнуўся ў міліцыю. Высветлілася, што ён быў вінен мільён рублёў мінчуку. І год не аддаваў. Агрэсіўны крэдытор узяў сяброў 23—25 гадоў і спрабаваў вярнуць грошы сілай.

**УШ**

# Спорна— і ламберсэксуалы прыйшлі на змену метрасэксуальнасці

Слова «метрасэксуал» часта гучала ў 2000-х. Яго прыдумаў у 1994 годзе англійскі журналіст Марк Сімпсан, каб апісаць новую сацыяльную з'яву: заможных гетэрасэксуальных мужчын з вялікіх гарадоў, якія пачалі сачыць за сваёй знешнасцю і выдаткоўваць на яе значныя сумы грошай.

Аднак летась сам аўтар тэрміна прызнаў, што метрасэксуалы дажываюць свой век. На змену ім прыходзяць спорнасэксуалы — гэтым разам Сімпсан стварыў тэрмін са словаў «спорт» і «порна». Калі метрасэксуалы акцэнтавалі стылёвае адзенне і модную фрызуру, спорнасэксуалы робяць культ са свайго цела. Сам Марк Сімпсан піша, што спорнасэксуалы «адфаташопілі сябе ў рэальным жыцці» — яны апантана займаюцца бодзібілдынгам, пакрываюць свае цела татуіроўкамі і становяцца падобнымі да ідэальных мужчын-зорак парнафільмаў ці сусветна вядомых спартоўцаў. Яны любяць сябе і выстаўляюць сябе напаказ бясконцымі паўаголенымі сэлфі. Можна сказаць, што калі метрасэксуалы адзяваліся на публіку, то спорнасэксуалы намагаюцца на публіку раздзецца.


Спорнасэксуалы ганарацца сваім целам, а таксама набіваюць шматлікія тату.

Яшчэ адной плыняю мужчынскай моды, што прыходзяць на змену метрасэксуалам, сталі ламберсэксуалы — гэткія метрасэксуалы наадварот. Ламберсэксуалам таксама не ўсё адно, што на іх надзета, аднак яны бяруць за арыенцір не гламур, а брутальны выгляд амерыканскіх працоўных мужчын. Нават назва ламберсэксуал створана ад англійскага слова lumberjack — лесаруб, дрывасек. Пацёртыя прасторныя джынсы, клятчастыя фланелевыя кашулі, цяжкія працоўныя боты, заплечнікі, грубыя вязаныя шапкі і знарочыста неахайныя бароды робяць іх падобнымі да лесарубаў Паўночнай Амерыкі. А папулярнасць акцёра Раяна Гослінга і герояў серыяла «Гульня тронаў» толькі множаць ламберсэксуалаў.


Англійскі акцёр Чарлі Ханэм — тыповы прадстаўнік ламберсэксуалаў.

Яўген Крэйда

**Фотафакт**







**Гродзенскія даішніцы ў форме і без**

Упраўленне ДАІ Гродзенскага аблвыканкама выпусціла насценны каляндар на 2015 год. Супрацоўніцы службы можна пабачыць у форменным адзенні, нацыянальных строях і часткова распранутых.

# Крамлёўскі прапагандыст Салаўёў адпачывае ў ЗША

Прадстаўнікі расійскіх медыя, прапагандысты Крамля, якія падтрымліваюць агрэсію РФ і Пуціна, адпачываюць на Захадзе. Пра гэта сведчаць запісы гэтых дзеячаў у сацсетках.

Так, тэлевядучы і крамлёўскі прапагандыст Уладзімір Салаўёў атрымлівае асалоду ад жыцця на ўзбярэжжы ЗША. «Салаўёў цэлы год кляйміў ЗША, а сам паехаў туды адпачываць», — піша адзін з карыстальнікаў «Твітара».

«А што вы самі ў патэнцыйнага ваеннага праціўніка робіце?» — задае пытанне вядучаму карыстальнік Манежка. — «А ты што за вырадак, каб пытанне задаваць?» — «культурна» адказвае Салаўёў.




ЛМ



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Голас з нябёсаў

Час ад часу ў мяне пытаюцца: чаму «Камертон»?

У пытанні адчуваецца, а калі і наўпрост чую, папрок у нясціпласці. Маўляў, ці не зашмат бярэ на сябе аўтар, прэтэндуючы на абсалютны слых, на неабвержную бездакорнасць думак і абагульненне пачуццяў?

Насамрэч усё значна прасцей.

...Ужо і не памятаю, хто прапанаваў з'ездзіць у вёску па самагон і сала. Хутчэй за ўсё я сам. Бо на чым яшчэ было ехаць акрамя як на бацькавым «масквічыку»? Тым больш што да Новага года заставалася якіясь 5—6 гадзінаў, і паспець на нашу студэнцкую складчыну іншым чынам было немагчыма.

Што да вёскі, то і назву яе не памятаю, і скажы хто зараз знайсці яе, не знайду. Памятаю толькі, што ў кірунку Паперні, а потым яшчэ кудысь убок, агулам кіламетраў 30 ад Мінска. Ці 40...

Снежань на той год выпаў амаль як сёлетні — марозны і маласнежны. Не тое, што восень, калі пад халодным, беспрапынным, з ветрам, даждж ом поркаліся ў пошуку падгнілых бульбін у гразкіх барознах. Да хаты дабіраліся ледзь жывыя, гаспадар, здаецца Пятро, наліваў у жалезную конаўку, адну на трох, пякучай каламутнай вадкасці, кожнаму па глытку, а Ганна, гэта памятаю дакладна, ужо ладзіла яешню з леташняй скваркай... Цяпло бегла па сасудах, і, павячэраўшы, мы адразу валіліся на шырокі сяннік, раскладзены па падлозе. Хата, аб адным пакоі, яшчэ будавалася. Ні ложкаў, ні канапаў не было — толькі печ ды падлога. Пятро, Ганна... Па тагачасным уражанні гадоў недзе за 70, мо нават і болей. Але кожную ноч праз паўсон толькі і чулася з печы валтузня і бясконцае: «Ды адчапіся ты... хлопцаў пабудзіш...» Ага, пабудзіш...

Пятро, дарэчы, быў без нагі, але кульгаў на драўляным пратэзе даволі спрытна. Дзе згубіў нагу, ды і ўвогуле пра жыццё, ніколі не распавядаў. Дзе і цікавіцца падавалася непрыстойным. Згубіў і згубіў. Аднойчы толькі, калі мы заспрачаліся пра культ асобы, пра Сталіна і Хрушчова, зірнуў з-пад сівізны слязістымі вачыма: «Кіньце, мальцы, што вы пра тое ведаеце...» Нам бы даведацца, чаму ён на старасці будавацца пачаў, ці была і куды падзелася ягоная родная хата. А мы ўсё Хрушчоў, Сталін, культ асобы...

...Самагону Пятро наліў ад душы, у вялікую, мо літры на тры, бутлю. Адрэзаў кавалак сала, Ганна наклала кіслай капусты. На развітанне глынулі па глытку, усё з той жа жалезнай

## Усё ж добрае было аўто — «Масквіч-402»!



конаўкі. Абняліся, павіншаваліся з надыходзячым... Я гляну ў на гадзіннік — шчэ гадзіны тры, паспею...

Недзе праз паўгадзіны распачалася завіруха, першая на тую зіму. Снег заляпляў шкло, фары сляпілі ўжо мае ўласныя вочы...

Усё ж добрае было аўто — «Масквіч-402»!

Трошкі вільнуў задам, споўз у кювет і мякка лёг на правы бок. Кювет не кювет, так, равок. Не, усё ж кювет, самому выбрацца немагчыма. Мо хто паедзе, дурням заўжды шанцуе... Не пашанцавала. Добра, хоць паліва амаль бак і печка спраўная...

Хвілін за пяць да дванаццаці я дастаў з бардачка кілішак, наліў з Пятровай бутлі і ўключыў радыё. Прамаўляў, здаецца, Левітан: «С Новым 1961-м годом, дорогие товарищи! С новым счастьем!»

...Ужо трошкі прыснуў, калі раптам пачулася: «Уладзімір Алоўнікаў, «Песня аб Радзіме». Спявае дзіцячы хор Мінскай музычнай школы-дзесяцігодкі».

Я расплюшчыў вочы, заглушыў рухавік. Завіруха скончылася, і ўсё навокал сталася белым. Усё, наколькі хапае далягляду, іскрыцца ў ззянні маладзіка, што мусіць ужо адольваць першую квадру. І нібыта з нябёс ліецца мелодыя: «Радзіма-а мая дарага-а-я...» Няўжо Сярожа? Так, я чую, гэта ён. Мабыць, стары запіс, мо нават з дэкады, недзе там уплецены і мой голас...

Я зноў заплюшчваю вочы. І бачу канцэртную залу з высокімі, у прыгожых пераплётах, вокнамі, што глядзяць на плошчу Свабоды, чорны раяль з адкінутым векам і Мікалая Фёдаравіча Маслава — ледзь прыўзнятай рукой заклікае да цішыні. Так Мікалай Фёдаравіч распачынае рэпетыцыю нашага хора — лёгкім ударам металічнай палачкі па такім жа металічным прадмеце, падобным на тоўсты двухзубы відэлец. Мы ўжо ведаем, што прадмет завецца камертонам, а гук, які здабываецца з яго, нотай ля... Кароткі ўзмах, і...

...1955 год, сцэна Вялікага тэатра, хлопчыкі ў белых кашулях і чорных, пашытых на заказ, штанах з шавіёту, дзяўчынкі з бантамі і ў белых фартухах. І усе з чырвонымі піянерскімі гальштукамі. І ўсе ўглядаюцца ў пазалочаную пячору цэнтральнай ложы, нібыта там, у загадкавай цемры, Сталін... І так шчыра, ані ноткі фальшывасці, усе спяваюць «Радзіму...». А саліруе Сярожа Мінчонак — бялявы хлопчык, мо гадкоў дзесяць, з заіздросным, надзвычай дзівосным, крынічным голасам...

І вось гэты голас ізноў ліецца з нябёс. Разам са святлом маладзіка, што ўжо адольвае першую квадру.

...Не злічыць, колькі месячных квадраў прайшло, а штогод, калі на гадзінніку дванаццаць, узгадваю, як сустракаў 1961-ы — сам-насам з Прасторай і Часам. І з Сярожам Мінчонкам.

Ад тае пары ні яго, ні пра яго я не чуў. Акрамя таго, што, па звестках, у яго зламаўся голас.

Шмат чаго зламалася з таго, ува што свята верылася. Але камертон захаваўся: «Красуйся і ў шчасці жывы...»

*kamerton_41@mail.ru*

# Гарачы беларускі хлопец Ягор Філіпенка

Футбаліст БАТЭ нечакана перайшоў у **іспанскі чэмпіянат**.

26-гадовы футбаліст Ягор Філіпенка працягне кар'еру ў сонечнай Іспаніі — галоўны трэнер «Малагі» Хаві Грасія пажадаў бачыць цэнтральнага абаронцу зборнай Беларусі ў складзе сваёй каманды. Кантракт разлічаны да 2017 года. Калі наш суайчыннік пераязджае ў топавы еўрапейскі чэмпіянат — гэта заўжды падзея. Асабліва цяпер, калі такія выпадкі можна заносіць у Чырвоную кнігу. Дык хто ён такі, наш новы легіянер на заходнім фронце?

### Ранняя птушка

Ягор Філіпенка — звычайны мінскі хлопец. Пачынаў займацца ў «Змене», якая цяпер стала кузняй кадраў для футбольнага клуба «Мінск». Разам з ім спасцігаў азы футбольнага мастацтва і яго ны сябра па барысаўскім этапе кар'еры Міхаіл Сівакоў, які цяпер гуляе на Украіне.

Што цікава, гуляць на высокім узроўні Ягор пачаў даволі рана — ужо ў 19 год ён складаў пару ў цэнтры абароны БАТЭ разам з Арцёмам Радзьковым. Такі імклівы пачатак кар'еры рэдкі сярод цэнтральных абаронцаў: на гэтай пазіцыі звычайна выкарыстоўваюць больш вопытных гульцоў.

Ну а яшчэ праз год, у 2008, Ягора сустракалі ўжо ў маскоўскім «Спартаку». На жаль, з ходу зайграць у складзе чырвона-белых у Філіпенкі не атрымалася праз высокую канкурэнцыю. Яшчэ два гады ён правёў у арэндах па расійскай глыбінцы, а ў 2011 вярнуўся да роднай старонкі.

БАТЭ выкупіў у «Спартака» палову правоў на абаронцу за $600 тысяч. Гэта была рызыкоўная здзелка — у свой час Філіпенка пераязджаў у Маскву ўсяго за $300 тысяч. Аднак беларус надта хацеў вярнуцца ў БАТЭ, нават быў гатовы выкупіць трансфер за ўласныя грошы.

Далей быў удзел у Лізе чэмпіёнаў у складзе БАТЭ, сенсацыйнае трэцяе месца на моладзевым чэмпіянаце Еўропы, выступленні за нацыянальную зборную і прызнанне найлепшым абаронцам чэмпіянату Беларусі сезона 2014. Цяпер жа перад Ягорам новы выклік — гульня ў чэмпіянаце, які ўваходзіць у сусветны топ-3.

У «Малагу» ён сышоў бясплатна. Кантракт са «Спартаком» і БАТЭ скончыўся 31 снежня 2014.

### Абаронца

Філіпенка — класічны цэнтральны абаронца. Высокі, але не вельмі фактурны. Добра дзейнічае на другім паверсе, смела ідзе ў адбор, мае неблагі першы пас. Гуляе з імпэтам. Не ўзгадаеш, каб гэты чалавек не хацеў змагацца за мяч і проста адбываў нумар на полі. Адна з галоўных яго ных якасцей на полі — надзейнасць. Ён не схільны «пажарыць» нават у самых складаных сітуацыях.

Але акрамя сваіх прамых функцый, Філіпенка-абаронца можа ў патрэбны момант і «стрэліць». Так, у сваёй кар'еры ён забіў некалькі важных мячоў, сярод іх — гол у вароты зборнай Чэхіі на вышэйзгаданым моладзевым чэмпіянаце Еўропы. Гэта быў матч за «бронзу», і менавіта дакладны ўдар Філіпенкі на 88-й хвіліне прынёс нашым хлопцам перамогу з мінімальным лікам і пуцёўку на Алімпіяду (упершыню ў гісторыі).

### «Троль», душа кампаніі і любімец публікі

Без сумневу, Філіпенка — самы медыяактыўны футбаліст краіны. Партнёры і сябры гульца расказваюць пра жарты і байкі, якія з'яўляюцца найлепшымі спадарожнікамі Ягора. Яго ныя інтэрв'ю і пасляматчавыя каментары — гэта проста скарб для спартыўных журналістаў. Увогуле, словы «Філіпенка» і «сумна» — гэта антонімы. Ёсць спадзеў, што нават няведанне іспанскай мовы дапаможа жыццелюбіваму беларусу ўліцца ў новы калектыў.

Сацыялізацыі будзе спрыяць і любоў Ягора да свецкіх тусовак. Філіпенка любіць адпачыць у начных клубах, якімі Іспанія акурат славіцца. Малага знаходзіцца на самым узбярэжжы Міжземнага мора і прыцягвае шмат турыстаў. Так што нежанаты і гаварлівы легіянер можа стаць добрай мішэнню для мясцовых прадстаўніц слабага полу.

Да таго ж Філіпенка — не проста хахмач, а яшчэ і лідар, завадзіла ў камандзе. «Такога, як Ягор, наогул цяжка адшукаць. Ёсць моманты, калі трэба проста сабраць усіх і пайсці наперад. І Філіпенка здольны гэта арганізаваць. Не, ніхто не кажа, што футбалісты пасля валяюцца. Проста адбываецца аб'яднанне каманды. Ягор — любоў нашых заўзятараў, нашых трэнераў, мая любоў, нарэшце», — так характарызуе футбаліста кіраўнік БАТЭ Анатоль Капскі. Калі не адбудзецца нейкага форс-мажору, Філіпенка зможа хутка абжыцца і ў Іспаніі: як з гульнявога боку, так і ва ўсіх астатніх аспектах.

**Зміцер Міцкевіч**

**Грашовае пытанне**

У БАТЭ Ягор Філіпенка меў заробак больш за $10 тысяч за месяц. Расійскія клубы былі гатовыя плаціць у разы больш, але гулец сказаў свайму агенту разглядаць варыянты толькі з Заходняй Еўропы, хай і з меншым заробкам.

**Статыстыка абаронцы**

За БАТЭ Філіпенка згуляў 148 матчаў, у якіх забіў 9 галоў. Статыстыка расійскага этапа кар'еры — 46 гульняў і 1 гол. У зборнай Беларусі — 35 гульняў і таксама 1 гол.




**Беларусы ў заходніх чэмпіянатах**

Францыя — Сяргей Крывец

Партугалія — Рэнан Брэсан

Турцыя — Аляксандр Глеб, Арцём Радзькоў

Грэцыя — Андрэй Гарбуноў

Польшча — Павел Савіцкі



**У Беларусі футбаліст ездзіў на Range Rover Sport за $80 тысяч.**

### Меркаванне эксперта



*Мікіта Мелказёраў — рэдактар футбольнага аддзела беларускай Tribuna.com, а таксама сябар Ягора Філіпенкі (яны разам займаліся ў футбольнай акадэміі «Змены»).*

Мне здаецца, у яго еўрапейскія характар і ментальнасць, запраўленыя здаровым нахабствам. Раней, калі Філіпенка быў зусім маладым, гэта магло падацца нейкім быдляцтвам, але цяпер ён ужо набыў густ. Нават Анатоль Капскі адзначаў, што Філіпенка можа «затроліць» каго заўгодна. І зрабіць гэта іранічна, стылёва і зусім не брыдка.

Дзіўна, але Філіпенка вырас у добрага футбаліста менавіта ў Беларусі. Зразумелая справа, чалавек з'ездзіў у Расію. Але, калі шчыра, той пераход адбыўся ранавата. У аснове «Спартака» на пазіцыі Філіпенкі тады гулялі вельмі сур'ёзныя легіянеры, за якіх былі заплачаныя даволі салідныя грошы. Атрымалася б дзіўна, калі б іх пасунуў малады і невядомы беларус. Плюс пасля пераезду ў «Том» у Філіпенкі здарылася цяжкая траўма, якая прымусіла прапусціць яго, лічы, год. Знаходжанне ў «Сібіры» запомнілася хіба што дрэннымі паводзінамі гульца. Па маладосці Ягор кідаў коні, пакрыўдзіўшыся на галоўнага трэнера. Ягор сам расказваў, маўляў, займаўся глупствам на трэніроўках і часам нават адмаўляўся лятаць на выязныя матчы. Не самыя адэкватныя паводзіны.

Я не дурань і разумею, што расійскі футбол, на жаль, лепшы за беларускі, але трэба прызнаць: у чэмпіянаце суседзяў Ягор больш збіраў геаграфічныя ўражанні. Усё ж не кожны жыў у Томску і Новасібірску. Ну, і жыццёвую упэўненасць. А канкрэтна футбольны вопыт у выглядзе Лігі чэмпіёнаў і паспяховага чэмпіянату Еўропы сярод моладзі быў набыты ўжо пасля вяртання дадому.

Памятаю, адбываліся спробы выкарыстоўваць Філіпенку ў апорнай зоне, але нічым паспяховым яны не павянчаліся. Таму Ягор канчаткова зацвердзіўся ў якасці цэнтральнага абаронцы. Чалавек мае рост 194 см, адпаведна, выдатна гуляе галавой. Ногі доўгія — адбор добры, атрымліваецца. Упэўнена пачынае атакі. Пад ціскам не пачынае панікаваць, спакойна разбіраецца ў сітуацыі. Каштоўныя якасці. Дасведчаныя людзі пацешна характарызавалі стыль гульні Філіпенкі ў родным чэмпіянаце: «Ходзіць пешшу і смяецца з нападаючых, час яму адсюль з'язджаць».

У «Малазе» для беларуса складваецца даволі спрыяльная сітуацыя. Зараз там два здаровых цэнтральныя абаронцы. Адзін з якіх — Серхіа Санчэс — збіраецца сыходзіць з каманды. Другому — бразільцу Велінгтану — 35 гадоў. Яшчэ два хлопцы — панамец Чэн і партугалец Ферэйра — траўмаваныя. Таму ў Філіпенкі ёсць магчымасць сысці з карабля на баль і адразу загуляць. Наўрад ці яго ўжо чымсьці спалохаеш: хлопец і за зборныя паспеў пагуляць, і ў еўракубках. Ды і наогул — навошта баяцца, калі табе даецца такі круты шанец. Таму я спадзяюся, што ўсё будзе нармальна.

## Самыя «гарачыя» выказванні Ягора Філіпенкі

**«Мне хацелася блевануць»**

— Як склалася гульня? Ніяк! Нічыйны вынік... За апошнія сем гадоў — гэта самы нікчэмны і слабы «Шахцёр», які я бачыў. Яны з першай хвіліны цягнулі час, выбівалі мяч наперад... Брамнік гэты падае, хоць там і близка нічога не было. Шчыра кажучы, мне хацелася блевануць ў распранальні ад такой гульні «Шахцёра». Яны сваё ачко адсюль увялі. Галоўны трэнер радуецца нічыёй з намі... Не ведаю, што гэта за каманда, якая не хоча перамагчы. Мне проста смешна!

**«Я хаджу ў клубы і п'ю віскі»**

— Да бараў я стаўлюся станоўча... Ну, як станоўча. Я проста не бачу нічога страшнага ў тым, што футбаліст пасля матча ідзе ў клуб, п'е піва ці віскі і едзе дадому. Гэта яго права. Футбаліст — такі ж чалавек, як ты ці хто-небудзь іншы. Тым больш на наступны дзень выхадны. У чым праблема? Іншая справа, калі прафесійны гулец на сталай аснове парушае рэжым пасярод тыдня, і гэта нейк адбіваецца на яго выступах. А рабіць трагедыю з таго, што, дапусцім, я пасля матча схадзіў у клуб, дзіўна. І так — я хаджу пасля матчаў у клубы, п'ю віскі і не бачу ніякай праблемы ў гэтым.

**«Я сапраўды канфліктны чалавек»**

— Так, ён [пункт гледжання] можа не падабацца 99% чытачоў. Але мяне гэта не хвалюе. Мяне можа не хваляваць меркаванне гэтых жа 99%. Можа быць, я сапраўды канфліктны чалавек. Але гэта мой характар. Так, у нейкай ступені я складаны чалавек. Так, характар у мяне няпросты. Так, часта не маю рацыі. Але мне цяжка нешта з гэтым зрабіць.

# Андрэй Хадановіч:

Андрэй Хадановіч — надзвычай прадуктыўны беларускі творца. Выкладчык, паэт, выканаўца, перакладчык — усяго не пералічыш. Перад вамі першая частка вялікага інтэрв'ю «Нашай Ніве», у якой герой расказвае аб адносінах у сваёй сям'і, аб юнацтве, сяброўстве з гітарай і перакладах песень Качмарскага.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Калі мы з Вамі дамаўляліся пра інтэрв'ю, Вы казалі, што Вам варта параіцца з жонкай, калі ў Вас будзе вольны час. Які ў Вашай сям'і падзел сямейных абавязкаў?**

**Андрэй Хадановіч:** Мы разам гадуем дачку, якой восем год і якая ходзіць у школку, прадлёнку, а таксама на секцыі — пераважна музычныя. Яна займаецца фартэпіяна, сальфеджыа, хорам. А мы з жонкай выкладаем у розных навучальных установах, таму ўвесь час дамаўляемся. Некалькі разоў на тыдзень я прачынаюся ні свет ні зара, каб адвесці малую ў школу, некалькі разоў гэта робіць жонка. Праўда, жонка ўсё адно прачынаецца раней, каб пакарміць дачку: яна гатуе лепей. Таму яна больш церпіць ад ранішніх уставанняў.

**«НН»: Але літаратар Хадановіч цвік у хаце забіць умее?**

**АХ:** Часам заб'ю. Не буду ўдакладняць, колькі разоў пры гэтым траплю па пальцы, колькі цвікоў будзе выкарыстана, але штосьці даводзіцца рабіць. Але ж высакакласным «майстрам на гадзіну» ў іншых кватэрах ці складаных пытаннях (з электрыкай звязаных, напрыклад) у сваёй хаце я, на жаль, быць не магу. Нешта прымітыўнае, што цяжэй зламаць ці сапсаваць, можна мне даверыць.

**«НН»: А ўвогуле, як жывецца ў такой сям'і гуманітарыяў?**

**АХ:** Мы доўга сябравалі перад тым, як рызыкнуць і стварыць сям'ю. Мы вучыліся з Марынай на філфаку БДУ, а потым у аспірантуры. Мы разам з 98 года, а з 2006 нас трое ў сям'і. Так што філалогія, гуманітарныя навукі падштурхнулі да стварэння сям'і. Гэта значны плюс: вялікую колькасць рэчаў не трэба тлумачыць адно аднаму. Бывае ў некаторых сем'ях, што ў мужа і жонкі розныя сферы цікаўнасці, і яны не лезуць у чужыя. А мы можам па-добраму ўлезці ў сферы зацікаўленняў адно аднаго. Я з павагай стаўлюся да выкладчыцкай і перакладчыцкай дзейнасці Марыны, бо таксама выкладаю і перакладаю. У нас адно на дваіх вялікае захапленне польскай і ўкраінскай літаратурай, толькі мы падзялілі сферы ўплыву: я перакладаю паэзію, а яна — прозу.

Марына можа быць першым чытачом таго, што я наваяў як паэт ці перакладчык. Я магу быць чытачом і рэдактарам яе перакладаў. Калі ў нас у хаце быў адзін камп'ютар, былі пэўныя цяжкасці — трэба было штурхацца локцямі ля манітора. Зараз у кожнага ёсць нэтбук, таму такой праблемы няма.

**«НН»: Андрэй Хадановіч пісаў будучай жонцы вершы? Як удалося зрабіць уражанне?**

**АХ:** Марына расказвае, што, калі мы здавалі на першым курсе ўводзіны ў літаратуразнаўства — гэта быў апошні экзамен у сесіі, — я бліцаў бы не падказаў ёй, ведаючы адказ. Ці ведаў я той адказ? Сёння цяжка сказаць. А ўвогуле я мог прынесці і паказаць Марыне нейкую цікавую кніжку, напрыклад, Рэмбо ці Апалінэра, і мы маглі на лекцыях яе гартаць. Маглі абменьвацца недзе на палях канспектаў нейкімі паведамленнямі. Зразумела, былі там і вершаваныя экспромты. Мне здаецца, Марына ад самага пачатку была для мяне не толькі музай, але і літаратурным крытыкам. Нешта я мог пісаць асабіста ёй. Але часта я мог пісаць на нейкую трэцюю тэму, і ёй паказваць. У мае 18—19 гадоў, калі мы вучыліся на філфаку, гэта было на рускай мове, бо вучыліся мы на рускім філфаку, а ўжо ў аспірантуры мяне накрыла беларускімі цікаўнасцямі, і мова, якой усё запісвалася, змянілася.

## Платанічны кантакт з дзяўчынай — цікавей

**«НН»: У Ваш час як жылося хлопцу на філфаку?**

**АХ:** Нам неймаверна пашчасціла — у нашай групе на 30 чалавек было 5 хлопцаў. Гэта была найвялікшая хлапечая прысутнасць на факультэце. Я нават вывеў матэматычную формулу нашага курса — дзяўчат было, як хлопцаў у квадраце: 11 хлопцаў і 121 дзяўчына. «Фактар штаноў» заўжды ўлічваўся — хлопцам было лягчэй паступіць на філфак. Калі я здаваў уступны экзамен, экзаменатарка Людміла Аляксандраўна Шаўчэнка чакала нараджэння кожнага майго слова. Ёй, здаецца, больш хацелася майго паступлення, чым мне.

Атрымлівалася, што калі ты хлопец на філфаку, дык ты альбо ідэйны — сапраўдны паэт, аматар філалогіі, сябра кніжак, — альбо скончаны раздзяўбай. Зрэшты, тое і гэтае магло быць адначасова. Бывалі такія, што і кніжкамі зачытваліся, але рабілі гэта паміж адной піўнухай і другой. У гэтым плане на першым і другім курсе я быў яшчэ самым дысцыплінаваным. А потым зразумеў, што фактар залікоўкі вельмі важны. Мне ж яшчэ вельмі рана далі стыпендыю імя Кандрата Крапівы. І тры гады гэта давала добры фінансавы дадатак, ды і не ў кожнага рука падымецца сапсаваць такую залікоўку. Я зразумеў, што трацціна лекцый — гэта тое, на што варта хадзіць. Трацціна — на што трэба завітваць, але слухаць можна адным вухам, займаючыся сваімі справамі. А астатняя трацціна — можна перайсці вуліцу і пайсці, скажам, у Нацыянальную бібліятэку.

**«НН»: Філфак. 11 хлапцоў і 121дзяўчына. Можа ж і дах сарваць, калі табе дваццаць гадоў!**

**АХ:** Так я вам у адсутнасці адваката ва ўсім і прызнаюся. Скажу адно: чуткі пра мае дасягненні, што цыркулявалі па філфаку, былі ў шмат разоў перабольшаныя. (У пэўны час у мяне была рэпутацыя лавеласа.) Мне нашмат цікавей зрабіць уражанне і проста мець нейкі абсалютна платанічны кантакт з дзяўчынай. Яна можа быць прыгожая, мілая, але ўспрымацца як суразмоўца: ёй можна штосьці расказаць, штосьці ад яе пачуць. Я не такі ўжо аднalюб ад прыроды. Проста ў маіх паводзінах ёсць такая кансерватыўная рэч: калі я знайшоў асобу, з якой можна ідэальна паразумецца, я сто разоў падумаю, перш чым памяняць яе на штосьці новае. А паразуменне з Марынай у мяне заўжды было цудоўнае.

**«НН»: Вы ж і з гітарай ужо былі знаёмыя…**

**АХ:** Я нервуюся, калі мяне называюць бардам. Але склалася так, што сярод усяго, што я перакладаю, мне падабаюцца тры фантастычныя паэты, якія трымалі ў руках гітару. Канадзец Леанард Коэн, француз Серж Гензбур і паляк Яцэк Качмарскі.

## Чаму Качмарскі

**— Дарэчы, Качмарскі. Чым ён Вам так спадабаўся, што Вы аж запісалі цэлы альбом з ягонымі песнямі?**

— Ягоныя творы я ведаю і люблю гадоў пятнаццаць. Першы раз мне яго паказалі беларускія сябры ў Варшаве. Алесь Навіцкі, тады супрацоўнік Пятага польскага канала радыё для Беларусі, узяўшы ў мяне і калегі нейкае інтэрв'ю, шчоўкнуў пэўным тумблерам — і загучаў Качмарскі. Калега Навіцкі сказаў так: «Гэты чалавек пачынаў з вучобы ў Высоцкага, а потым засвоіў гэта і пайшоў яшчэ далей». Тут я паставіўся скептычна: Высоцкі на той момант баў адным з маіх багоў, як можна «пайсці далей»? Але я адразу злавіў энергетыку Качмарскага — адчуваўся нейкі напор і, канечне ж, цудоўная паэзія.

На той момант я ведаў, што такое «Салідарнасць». Качмарскі быў адным з волатаў, змагаўся за незалежнасць, за свабоду. Я гэта шанаваў, але разумеў спрошчана. А цяпер у мяне ёсць поўная анталогія ягоных тэкстаў, якая займае тысячу сто старонак — такая ладная таміна. І, пачытаўшы яе, можна зразумець, што ён не толькі і не столькі бард нейкага руху, якім бы добрым гэты рух ні быў. Ён універсальны. Ён паэт вельмі высокай культуры. Гэта відаць і па тым, пра што ён пісаў і спяваў, і па тым, як ён гэта рабіў. Кожны радок адсылае да нейкага вобразу, які адсылае яшчэ далей.

Ён інтэлектуал у энным пакаленні. Ягоныя бацькі — знакамітыя мастачка і скульптар, ён выхоўваўся ў адпаведнай атмасферы. Напрыклад, у яго ёсць альбом «Музей» — кожная песня адсылае да нейкага шэдэўра жывапісу. Паўстае дылема, якая і мяне сёння цікавіць: што спяваць? Тое, на чым ты выхоўваўся і што сам лічыш найлепшым, альбо тое, што гатовая ўспрымаць большасць? Зразумела, чым прасцейшы твор, тым большы можа быць розгалас. А вось Качмарскі мог паяднаць адно і другое — не саступаць нейкім густам, старацца падымаць свайго слухача да таго, што сам рабіў.

Увогуле, я б яшчэ пятнаццаць гадоў сядзеў і баяўся да яго падступіцца, каб не з'явілася знешняя замова. Такім замоўцам стаў былы польскі пасол у Беларусі Генрык Літвін, які любіў Качмарскага і хацеў, каб некалькі найлепшых беларускіх спевакоў выканалі ягоныя песні па-беларуску. Вырашылі, што гэта будуць Віктар Шалкевіч, Зміцер Вайцюшкевіч і Андрэй Мельнікаў — кожны са сваім стылем і голасам. Для кожнага было па шэсць песень. Я падышоў да гэтага дысцыплінавана — зрабіў пераклады, здаў. Прайшоў год, другі, а далей нешта там не склалася. З'ехаў той пасол, можа, прайшоў час і памянела імпэту. Праўда, тэлефанаваў і пісаў Мельнікаў, мы дыскутавалі наконт адной песні, я нават нешта перапісаў. Яго гэта зацікавіла. А ад іншых творцаў зваротнай рэакцыі не было.

Потым здарыўся снежань 2010, калі я на плошчы выгукнуў «Муры», і Вайцюшкевіч папрасіў у мяне тэкст перакладу і запісаў сваю версію песні. (Прынагодна высветлілася, што «Муры» раней перакладаў Лявон Вольскі, але ў яго не дайшло да запісу песні. Таксама ў часы разгону Беларускага гуманітарнага ліцэя гэтую песню на замову пераклаў Рыгор Барадулін. Таму фактычна я перакладаў трэці раз.)

Калі я потым сам стаў рыхтаваць альбом, то пакінуў з тых песень палову — тое, што мне самому падабалася найбольш, а таксама яшчэ дадаў некалькі новых перакладаў. І выйшла ўжо не 18, а 15 песень, з якімі я звярнуўся да музыкаў. У мяне даўно добрыя

# У мяне была рэпутацыя лавеласа

кантакты з Воляй Падгайскай і Віталём Эпавым — гэта былы гурт «Рацыянальная дыета», яны пішуць і выконваюць музыку найвышэйшага класу. Яны запрасілі да праекту яшчэ некалькі людзей — акардэаніста Аляксандра Буцько, гітарыста Андрэя Еўдакімава і гукарэжысёра — берасцейца Андрэя Багданава. Да яго мы і ездзілі ў госці ўсё гэта пісаць. Я Вользе і хлопцам страшэнна ўдзячны за цярплівасць і разуменне, за тое, як яны са мной працавалі, спакойна падказваючы мне, як лепей рабіць, і карэктуючы мае памылкі. Высветлілася, што адну з гэтых 15 песень я сьпяваць не магу — проста не цягну, і яна адпала. Гэта песня «Касандра», тая самая, за якую хваляваўся Андрэй Мельнікаў. Таму цяпер ён можа спакойна яе спяваць, калі хоча *(смяецца)*.

### «Нататкі таткі»

**«НН»: А над чым працуеце цяпер?**

**АХ:** Якуб Колас, заспеты журналістам за колкай дроў, на такое пытанне адказваў: «Не бачыш, дровы калю!» Калі сур'ёзна, я кожны год стараюся перакласці і падрыхтаваць кніжку вершаў польскага паэта. Зараз працую над творамі Эвы Ліпскай — магчыма, найлепшай сучаснай польскай паэткі. Спадзяюся, яна прыедзе да нас у лютым на міжнародны фестываль памяці Стральцова, і да таго часу выйдзе кніжка, і мы будзем разам з паэткай яе прадстаўляць. Гэта адзін праект. Другі — кніжка, што ўжо выйшла ва Украіне па-ўкраінску, а ў арыгіналах у Беларусі — яшчэ не. Гэта дзіцячыя вершыкі «Нататкі таткі». Нарэшце знайшоў добрую мастачку. Цяпер абмяркоўваем арыгінал-макет кніжкі з яе ілюстрацыямі. Цьфуцьфу-цьфу, баюся сурочыць, але хочацца верыць, што кніга з'явіцца ў найбліжэйшыя месяцы.

Ну і пару словаў пра яшчэ адзін праект. Апошнія гады я шмат ездзіў па свеце — і пачалі пісацца падарожныя вершы. Штосьці на мяжы з турыстычным дзённікам. Але спадзяюся, што мяжу гэтую я не перайшоў — і вершы засталіся вершамі. Тэксты навеяныя Парыжам, Амерыкай, Японіяй, Паўднёвай Карэяй, Ісландыяй, Калумбіяй, Венесуэлай. Уражанні з вандровак збіраліся — і назбіралася на ладную кніжку. Хочацца верыць, што і яна выйдзе неўзабаве.

### Пра патрыятызм без пафасу

**«НН»: Яшчэ да творчасці. Лімерыкі — для нашых шырот рэч нехарактэрная…**

**АХ:** Спачатку я чытаў англійскія лімерыкі Эдварда Ліра. Яны ж фармальна будуюцца вакол жыхароў нейкага горада. Толькі ў англічан гарады экзатычныя — Рыа-дэ-Жанейра, Маніла, Куала-Лумпур, а пасля гэта віртуозна рыфмуецца. І мне падумалася — чаму б не напоўніць гэта беларускім зместам? Можна зачапіць за жывое чалавека, калі будзе расказвацца аб яго ягоным мястэчку. Гэта добры патрыятызм, без пафасу. І падчас прэзентацый лімерыкаў мне больш за ўсё падабалася, калі людзі прасілі прачытаць пра іх мясціны. Калі падыходзілі й казалі, што вось ёсць у кнізе лімерык пра раскольнікаў з Веткі, і прасілі падпісаць ім кнігу менавіта на гэтай старонцы, бо яны самі з Веткі. Мне здаецца, гэта сімпатычна. Мо чалавек да гэтага дзесяць год паэзіяй ні фіга не цікавіўся і беларускай ні халеры не размаўляў, а тут пабачыць у кнізе пра сваю Ветку — і на гэтай хвалі яшчэ што прачытае.

**«НН»: Кажуць, сямейнае жыццё ўплывае на творчасць. Знікае натхненне і гэтак далей. У Вас з гэтым як?**

**АХ:** Па-рознаму. Калі б я ведаў універсальны рэцэпт натхнення, быў бы багатым чалавекам. Я для сябе ведаю: не пішацца — можаш перакладаць, не перакладаецца — можаш пачытаць. Для мяне амаль стоадсоткавыя крыніцы натхнення — падарожжы. Сяброўства таксама. Табе кепска — ведаеш, каму патэлефанаваць ці напісаць.

### Куфаль піва — і розум страчаны для пісання на суткі

**«НН»: Роўна чатыры гады таму Вы расказвалі ў інтэрв'ю, як скінулі 27 кілаграмаў. Што цяпер з фізічнай формай?**

**АХ:** Палова гэтай вагі вярнулася назад. Другая, на шчасце, яшчэ ў дарозе. У мяне з ладам жыцця і абменам рэчываў так, што зграбнасці не будзе, калі рэгулярна гэтага не пільнавацца. Калі я ўжываю алкаголь, хоць бы трохі, то мушу быць гатовым, што буду набіраць вагу. Разам з тым сябры кажуць, што на дыеце я раблюся больш занудны, мне адмаўляе пачуццё гумару.

Шмат у чым вінаваты лад жыцця: сядзіш за маніторам, стукаеш па клавіятуры. Калі ўдаецца сесці на ровар, стаць на канькі, паплаваць у басейне альбо пагуляць на філфаку з выкладчыкамі ў баскетбол — гэта правераныя дарогі да лепшай формы. Але з жорсткімі дэдлайнамі, шматлікімі і часам непрадказальнымі паездкамі і выступамі складана зрабіць гэта ўсё рэгулярным.

**«НН»: 4 гады таму Вы казалі, што не п'яце піва. І цяпер так жа?**

**АХ:** Ёсць выключэнні. Я не магу не піць піва, апынуўшыся ў Бельгіі ці Ірландыі — там мае ўлюбёныя гатункі. Не магу не піць «Трапіста». Не магу не ўжываць ірландскага портару, калі здараецца. Але гэтае піва можна пакаштаваць толькі там. Без нямецкага і нават чэшскага піва, не кажучы пра горшае, я ўжо навучыўся абыходзіцца.

**«НН»: Творчыя людзі ўвогуле даволі часта злоўжываюць…**

**АХ:** Ведаеце, у мяне няма творчай патрэбы кантактаваць з алкаголем. Ёсць людзі, для якіх гэта адзін са стымулаў. На мяне сябры ўплываюць, жаночая прыгажосць уплывае, падарожжы ўплываюць, кніжкі ўплываюць, алкаголь абсалютна не ўплывае, не натхняе. Больш за тое, 50 грам моцнага алкаголю ці куфаль піва — і мой розум страчаны для пісання на суткі. Я магу заставацца добрым суразмоўцам ці слухачом, камунікаваць з людзьмі, але для літаратуры буду страчаны.

**«НН»: Да тэмы чалавечых камунікацый. Вы рэдкі чалавек, у якога мабільніка няма. Гэта ўвогуле як?**

**АХ:** Так склалася гістарычна. У свой час паленаваўся, а далей нават прыкольна стала — колькі я змагу без мабільніка абыходзіцца. Я цяпер жартую, што чакаю новага вітка тэхналогій, калі людзям у мазгі будуць ужыўляць чып для тэлепатычных размоў — мо гэтым і скарыстаюся. А калі прынцыпова аб тым, чым для мяне інтэрнэт лепшы за мабільны тэлефон, дык у інтэрнэце ты сам рэгулюеш рытм сваіх кантактаў. Ты адказваеш на ліст не ў тую ж секунду, а калі табе зручней. Я прывучыў сябе некалькі разоў на дзень, дзе б я ні быў, спраўджваць інтэрнэт.

Але я раблю гэта тады, калі мне зручна, калі мне хочацца і калі я магу даць талковы адказ. А не ў тую секунду, калі заспее тэлефонны званок. Яшчэ я словаахвотлівы і ласы да кантактаў. Таму да паловы часу, якую жарэ інтэрнэт, дай мне мабільны тэлефон, дык ён з'есць усю рэшту. Можа быць, я гэта інтуітыўна адчуваю. Хаця ў мяне ёсць прымітыўны апарат і некалькі сім-карт, але замежных і выключна для дальніх паездак. Калі любая жонка будзе за мяне перажываць у паездцы, я магу, напрыклад, даслаць ёй эсэмэску з Францыі ці пазваніць з Амерыкі.

**«НН»: А тут дачку кантраляваць няма жадання? А то куды ні глянь, дык нават самым малым дзецям бацькі пакуплялі тэлефоны і барабаняць праз кожныя пяць хвілін.**

**АХ:** Я веру, што ў маёй дачкі павінны быць таксама свае межы свабоды. Нават калі мне будзе крышачку больш дыскамфортна. Я чалавек, які не любіць, калі мяне аж занадта апякаюць. Я не люблю доўга знаходзіцца ў адзіноце, але не магу ўвесь час знаходзіцца ў кантактах. І мне хочацца, каб я сам рэгуляваў рытмы гэтых зносін. Я думаю, што і мая дачка мае права на нейкія рэчы, пра якія я не мушу ведаць. Бо палітыка гэтакай вельмі кароткай шворкі можа прывесці альбо да бунту, альбо да крывадушнасці. Мне б хацелася, каб нашыя адносіны заставаліся праўдзівымі. Каб дачка магла прызнацца ў чымсьці, не прыхоўваць. Але, калі я буду лезці паўсюль, можа з'явіцца і агрэсіўнае стаўленне.

Ды і ўвогуле свет татальна звіхнуўся. Я ні ад каго не хаваў свой хатні тэлефон. Калі я знаходжуся дома, мне можна дазваніцца. Калі я не дома, я хутчэй за ўсё ў публічнай прасторы — чытаю лекцыю, слухаю, дыскутую, чытаю вершы, калі званіць на мабільнік, мякка кажучы, непажадана. Альбо я дзесьці самотна шпацырую па вуліцы і таксама не буду ў захапленні ад званка. Таму ў момант, максімальна адкрыты да камунікацыі, я дома пры хатнім тэлефоне. Іншая рэч, што людзі ўжо крышачку разбэшчаныя. Ім ужо нязручна, няёмка ці дорага званіць людзям на хатні. Зрэшты, гэта своеасаблівы натуральны адбор: калі чалавек, не маючы майго мабільнага, набірае чыйсьці іншы нумар, а не шукае магчымасцяў адшукаць мяне, дык, можа, мне і не трэба той кантакт?

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**

# Ын пакрыўдзіўся

**«Інтэрв'ю»:** амерыканская стужка пра паўночнакарэйскага дыктатара выклікала сусветны скандал.

Культ асобы правадыра ў Паўночнай Карэі мацнейшы, чым культ Сталіна ў СССР у 1930—50-х. Абраза кіраўніка партыі і народа ў КНДР — штосьці недапушчальнае, як карыкатура на прарока Мухамеда для радыкальных ісламістаў. Не дзіва, што ўлады КНДР падалі скаргу ў ААН, калі даведаліся, што рэжысёр Сэт Роген здымае ў Галівудзе кіно пра забойства Кім Чэн Ына. У той скарзе кінакамедыя называлася «актам вайны» і «правакацыйным шаленствам», якое «адлюстроўвае тое, што ЗША зрабілі ў Афганістане, Іраку, Сірыі і Украіне». І вось стужка на экранах. Што ў ёй?

Галоўныя героі — вядоўца забаўляльнага ток-шоу Дэйв Скайларк і яго прадзюсар Аран. Шоу на вяршыні папулярнасці. Амерыканцы сцябуцца з уласнай масавай культуры, паказваючы, што гэта за вяршыня: рэпер-гамафоб Эмінем прызнаецца Дэйву ў жывым эфіры, што ён гей. І падобнае. Але Аран сумуе ад гэтае «жаўцізны», бо хоча рабіць сур'ёзныя навіны.

І тут раптоўна высвятляецца, што адзін з найстрашнейшых дыктатараў сучаснасці Кім Чэн Ын — адданы фанат шоу Дэйва і гатовы даць яму інтэрв'ю — першае ў гісторыі. Добры шанец забіць дыктатара, лічыць ЦРУ — і вярбуе Дэйва з Аранам. Але падчас асабістай сустрэчы Кім Чэн Ыну ўдаецца пасябраваць з Дэйвам...



Палітычная сатыра не ў навіну для Галівуда. Самы яскравы прыклад — Чарлі Чаплін, які ў 1940-м сыграў Адольфа Гітлера ў камедыі «Вялікі дыктатар». У 2006-м і Казахстан крыўдзіўся на фільм «Борат» Сашы Барона Коэна. У 2012-м на яго ж «Дыктатара» скардзілася палова арабскага свету. А ўжо «Саўт Парк»... Працсей пералічыць, каго не абражаў гэты мультсерыял.

У «Інтэрв'ю» ёсць адзін знакавы акцэнт: дыктатуры абрынае не зброя і не спецслужбы «справядлівых» краін, а праўда. Падзенне Ына ў фільме пачынаецца пасля таго, як дыктатар запнуўся ў жывым эфіры пасля нечаканага пытання, чаму ён не корміць уласны народ. От дзеля гэтай сцэны ў нашай частцы свету варта глядзець гэтае кіно.

А так «Інтэрв'ю» ў адзін шэраг з «Вялікім дыктатарам» не паставіш. У фільме Рогена згадваюцца лагеры смерці і татальны голад, але ілюструе народныя пакуты толькі адна фальшывая крама з муляжамі фруктаў, пастаўленая спецыяльна для амерыканскіх гасцей. Дый «сартырны» гумар пераважае над палітычным. Але і гэтага хапіла для жорсткай рэакцыі.

У канцы лістапада невядомыя хакеры ўзламалі сайт адказнай за выпуск «Інтэрв'ю» кампаніі Sony Pictures. Яны пагражалі напалохаць увесь свет і нагадаць ЗША пра 11 верасня 2001-га ў выпадку, калі фільм выйдзе ў пракат. ЦРУ абвінавяціла ў хакерстве КНДР, тая адхрысцілася і нават прапанавала супольнае расследаванне. ЗША не пагадзіліся. А праз пэўны час у КНДР на суткі адключыўся інтэрнэт (на ўсіх 2—3 тысячах камп'ютараў з доступам у яго). КНДР абвінавяціла ЗША, Штаты адхрысціліся.

Фільм такімі жарцямі не палае. Шоўмэн папівае кактэйлі з дыктатарам, яны разам катаюцца на танку і слухаюць песні Кэці Пэры. Яго прадзюсар не губляе надзеі забіць Ына сам, але яму замінае нечаканае каханне да кіраўніцы прэс-службы паўночнакарэйскага дыктатара. Калі перанесці дзею фільма з рэальнай краіны ў выдуманую, выйдзе стандартны галівудаўскі «Індыяна Джонс».

А тым часам з-за боязі тэрарыстычных атак «Інтэрв'ю» пачалі здымаць з паказу па ўсім свеце, і ў падтрымку фільма (ці хутчэй свабоды слова) выказаліся дзясяткі культуры, палітыкі і нават прэзідэнт ЗША Барак Абама.

У ЗША фільм не выйшаў у шырокі пракат, пры бюджэце больш за 40 млн даляраў сабраў за прэм'ерны ўік-энд толькі 1,8 млн у трох сотнях кінатэатраў. Затое анлайн-продажы фільма паставілі рэкорд: 2 мільёны гледачоў за 4 дні і 15 млн даляраў.

Фільм не акупіўся, нягледзячы на надзвычайную ўвагу. А без яе меў бы яшчэ меней шанцаў. Хоць бы таму, што сапраўдны Кім Чэн Ын выглядае камічней за выканаўца яго ролі — стылёвага акцёра Рэндала Парка.

У беларусаў амаль няма шанцаў паглядзець «Інтэрв'ю» легальна. Аб планах шырокага пракату ў кінатэатрах звестак няма, а ў інтэрнэце стужка не прадаецца для карыстальнікаў з Беларусі. Адзіны спосаб — піратства.

**Аляксандр Арсёнаў**

# Без права на памылку

Мы публікавалі артыкул Кацярыны Андрэевай пра «беларусізацыю». Цяпер яна даслала новы матэрыял, у якім разважае наконт ролі моладзі (а менавіта тых, хто нарадзіўся, калі да ўлады прыйшоў Лукашэнка) у сучасным грамадска-палітычным жыцці Беларусі. Актуальныя разважанні — і ёсць іронія ў тым, што ўлады абвесцілі гэты год «годам моладзі».

2015 год — юбілейны. Сёлета адбудуцца пятыя за ўвесь час існавання незалежнай Беларусі прэзідэнцкія выбары. Я спадзяюся, што яны адбудуцца. Выбары пятыя, але толькі на першых, улетку 1994-га, цяперашні кіраўнік дзяржавы легітымна атрымаў дастаткова галасоў у сваю падтрымку. Усё астатняе, уся наша гісторыя з 94-га па сёння, хлусня. Хлусня на тэлебачанні, хлусня у газетах, адукацыйных установах. Здаецца, што час у Беларусі спыніўся...

Ці так гэта?

Рэжыму Лукашэнкі — 21 год. Мне было колькі месяцаў, калі ён прыйшоў да ўлады. Памятаю старэнькі тэлевізар, што стаяў у зале нашай мінскай кватэры. Памятаю кадры дэманстрацыяў, калі людзі яшчэ выходзілі тысячамі на супрацьстаянне са страшэннай хваробай дыктатуры, якая ў сучасным беларускім абліччы тады толькі нараджалася. Дзесьці былі, напэўна, і астатнія — тыя, хто галасаваў за Лукашэнку як за «гаранта стабільнасці». Але ў той час такія словы, як «мітынг», «дыктатура», «нелегітымнасць» мне былі пакуль што невядомыя. Не ведала я, і адкуль паходзіць лозунг «Жыве Беларусь!», што часта гучаў на мітынгах. Мне было незразумела, чаго патрабаваў натоўп з бел-чырвона-белымі сцягамі і з чым яны адмаўляліся пагаджацца. І чаму хлопцы ў чорным бязлістасна лупцавалі дубінкамі жанчын ды юнакоў на вуліцах Мінска.

У 2010-м годзе мне споўнілася сямнаццаць, і я пайшла на першы курс універсітэта. Я памятаю восень, калі ішла перадвыбарчая кампанія. Зразумела, тады ў маіх аднагодкаў не магло быць поўнага разумення зрухаў у грамадстве. Для нас гэта былі нейкія разрозненыя каляровыя плямы — луначыя ў паветры сцягі розных партый, далёкія гукі песняў, заклікі. У пэўным веку жаданне змагацца за праўду хваліое кроў і бянтэжыць розум, а таму — нагадвае гульню. Некаторым з маіх сябровуж споўнілася васямнаццаць, і яны сур'ёзна збіраліся ісці на выбары, адстойваі свае меркаванні ў гутарках з прыяцелямі, нават ганарыліся выбарчым правам! Захопленыя марамі, яны не ўсведамлялі, што такога права не маюць апрыёры, пакуль у нашай краіне пануе татальная хлусня.

Мы памятаем, што засталося ад Плошчы той вызначальнай ноччу: сляды крыві на брудным снезе ды сотні жыццяў, зруйнаваных абсурднай жорсткасцю. А мо і не сотні, а ўсе як ёсць дзесяць мільёнаў?..

Тады Захад здзівіла, як у нас могуць прынародна збіваць кандыдатаў у прэзідэнты. Калі мне давялося падарожнічаць па Еўропе, мне казалі, даведаўшыся, што я беларуска: «У вас сапраўды такое магчыма?» Мне было сорамна за Беларусь. Тым не менш, нягледзячы на ўвесь боль, снежань 2010-га застанецца ўспамінам пра першы для нашага пакалення сапраўдны агульнанародны ўздым. І канец дзяцінства.

Мінуў час, і пакаленне народжаных у 94-м пасталела. Маючы хоць і невялікі, але жыццёвы досвед, мы нарэшце можам разважаць і дзейнічаць.

Мяне здзіўляе, як хутка беларусы забыліся на трагічныя падзеі апошніх выбараў, як зноў жывуць па прынцыпе «абы вайны не было», але цяпер таксама дадаюць: «як ва Украіне».

Нават тыя, хто ніколі не падтрымліваў уладу, пачынаюць «шкадаваць» Лукашэнку, кажучы, што «без яго тут зусім пачнецца...» Мы, беларусы, трапляем у пастку ўласных страхаў. Так, вайны няма. Так, стабільнасць. Але колькі часу нам адпушчана на нашую ўлюбёную стабільнасць? Бо нават самы заўзяты дыктатар не вечны. І калі час зменаў прыйдзе, перад народам паўстане выбар: сапраўдная дэмакратыя або існаванне ў складзе Расійскай Федэрацыі як адна з аўтаномных рэспублік. Прынамсі Лукашэнка ўжо дастаткова спалохаўся, каб дазволіць грамадска-культурныя акцыі, прысвечаныя беларускай мове.

Аднойчы мне давялося перакананаца ў тым, што ў Расіі на нас ёсць свае планы. Цырымонія закрыцця фестывалю «Лістапад». У мяне ёсць знаёмы расійскі кінакрытык, дарэчы, апазіцыйна настроены да пуцінскай палітыкі. Ён і запрасіў мяне на фуршэт у кінатэатры «Масква». У бары сабралася багема — дзеячы культуры, як расійскія, так і айчынныя, нязмушана гутарылі. На агульным фоне недарэчна глядзеўся былы міністр культуры Расіі Швыдкой. Мой знаёмы дыпламатычна запытаўся, па якіх справах той прыехаў у Мінск: адпачыць ці на фестываль...

Я ж проста стаяла побач. У журналісцкай практыцы ёсць моманты, калі шкадуеш, што ў цябе ў руках няма дыктафона. Былы міністр быў ужо добра падпіўшы, таму, не саромеючыся, адказаў:

– Нет, мы здесь по выборам работаем...

– По выборам пятнадцатого года? Так оні же только через год! Уже?!

– Уже, — выдыхнуў нам у твар чыноўнік.

Мае пачуцці можна было б апісаць словамі Булгакава: «Самый страшный гнев, гнев бессилия». Бяссілле, роспач перад страшэннай бязлітаснай машынай, што знішчае ўсё на сваім шляху. Але мы самі сваёю шматгадовою памяркоўнасцю клаліся пад колы гэтае машыны.

Таму, калі я чую «Жыве Беларусь!», мне хочацца запытаць у майго пакалення: калі апошні раз мы правяралі пульс нашай Беларусі, каб упэўнена сказаць потым сваім дзеткам: «Так, жыве!»?

І калі кажуць, што надзея памірае апошняй, мне хочацца ведаць, дзе той чалавек, які адродзіць свабодную Беларусь? Магчыма, гэты чалавек — кожны з нас, ты і я?

Калі мы хочам жыць у свабоднай краіне, перш за ўсё кожны малады беларус павінен адчуць сваю нацыянальную прыналежнасць, адчуць уласную годнасць і адчуць асалоду быць беларусам. Я лічу, што на нашае пакаленне ўскладзена найвялікшая адказнасць, бо мы — гэта надзея Беларусі на дэмакратычную будучыню.

Мы не маем права на памылку.

Жыве Беларусь. І жыць будзе вечна.

# Калі Лукашэнка адчыніць акно

Паважаная рэдакцыя «НН», чытаючы апошнія нумары, дзіву даюся, як газета імкнецца пераплюнуць «СБ» у ачмурэнні сваіх чытачоў нейкай «мяккай беларусізацыяй».

То газета паведамляе допісам Марціновіча, што Беларусь адбылася, то змяшчае артыкул Пятра Рудкоўскага «Глядзіце, каму Лукашэнка адчыняе акно», то друкуе артыкул Кацярыны Андрэевай, у якім яна паведамляе, што «адчуваe надыходзячую лавіну беларусізацыі».
Ды нікому беларускі Герастрат акно не адчыняе і не адчыніць. Калгаснік па сваёй ментальнасці і выхаванні з саўковымі звычкамі паводзін не здольны на шляхетныя ўчынкі. А вось што піша Кацярына Андрэева: «Мяккая беларусізацыя — гэта цалкам зразумелая, прадуманая і натуральная ў сучасных геапалітычных умовах палітыка нашай дзяржавы. Бараніць сваё, але без рэзкіх штуршкоў, каб і суседзяў не пакрыўдзіць». Бацэнька родны, калі ж гэта беларусы пазбудуцца ў душы халопства! Як кажуць, дазволь, акупанце, праспаць пад лаўкай у сваёй хаце.
Якога там ліха «Беларусь адбылася»? Дастаткова толькі таго, без іншых фактаў, пад якім імем ішлі беларускія вайсковыя часткі на пацешным парадзе, які ўзурпатар наладзіў сабе. Неверагодна, але беларускія вайсковыя часткі маршыравалі разам з расейскімі пад імем Суворава, Кутузава. Беларуская армія ператворана ў падраздзяленне расейскай арміі, якая, па яго словах, абараняе заходнюю мяжу Расіі.
Усе гэтыя мытныя пасты, абурэння выказванні разлічаны на яго саўковы электарат. Масква ў любы момант свайго стаўленіка можа замяніць іншым, больш спакойным. Беларускі бацька бачыць, што Масква ставіцца часта да яго як пан да слугі. Але ж ён сам давёў сябе да такога стану. Раз прадаўся — назаўжды паняволеным застаўся. Маскву пакуль задавальняе статус Беларусі-дамініёна. Ёй выгадна мець на міжнароднай арэне, як і ў савецкія часы, яшчэ адзін голас.
Лукашэнку і яго прыспешнікаў няма каму бараніць, дый ніхто і не будзе яго бараніць, Калі Масква высадзіць дэсант стралковых. Што сеяў, тое і пажне.
Лукашэнка адчыніць акно, калі:
1) падпіша ўказ, каб усе чыноўнікі за паўгода асвоілі беларускую мову;
2) падпіша ўказ аб скасаванні вынікаў так званага рэферэндуму аб мове, гербе, сцягу;
3) падпіша ўказ аб выкананні закона «Аб мовах», прынятага Вярхоўным Саветам Беларусі.
Вось тады і пойдзе свежае паветра беларусізацыі. Вось тады Лукашэнка стане нацыянальным героем Беларусі, а яго партрэт будзе на грашовых знаках еўрапейскай незалежнай Беларусі. Гісторыя даруе.

**Мікола Валошчык, Белаазёрск**

**Ад рэдактара**

Час пакажа, хто мае рацыю: юная Каця Андрэева, малады Марціновіч, Рудкоўскі ці Вы, спадар Валошчык, з Вашым гіганцкім жыццёвым вопытам. Галоўнае, што Вы чытаеце моладзь, а яны чытаюць Вас. Дый Аляксандр Лукашэнка таксама "Нашу Ніву" чытае, дык хай ведае, што людзі думаюць.

## Мікола Валошчык

З Новым годам вас віншую,
Зычу шчодрых вам каляд,
Божай ласкі ў ноч святую,
Яго міласці пагляд.

Зорка шчасця хай заўжды вам
Ярка свеціць за акном,
І ад блізкіх дабрадзейства
Шчодра вам штодня дано.

Хай здароўе добра служыць,
Сілаў больш дае Бог сам,
І ніякія ўжо сцюжы
Не халодзяць сэрца вам!



**Газета выступіла. Што зроблена**

**«Запазычанасць аплачаная»**

Кіраўніцтвам філіяла «Аўтобусны парк №5» разгледжаная інфармацыя, выкладзеная ў «Нашай Ніве», аб нясвоечасовым пералічэнні грашовых сродкаў за паслугі паліклініцы № 15 г. Мінска. Меры прынятыя. Запазычанасць аплачаная.

**Дырэктар філіяла М.В.Марцуль**

Здароўе

# Што рабіць, калі не спіцца

Аўтар гэтых радкоў можа ляжаць некалькі гадзін у ложку ў цемры — і не заснуць. Што рабіць тым, хто «не сава і не жаваранак, а зомбі» праз праблемы з засынаннем?

**Народныя метады**

Чытачка «НН» з Брэста Валянціна Антонаўна, якая два дзясяткі год змагаецца з бяссонніцай, спрабавала многія сродкі. Але кожная лекавая расліна можа мець пабочнае дзеянне, нагадвае яна. Алергія можа быць такая ж, як і пры лекаванні таблеткамі. Тое, што супакойць нервы, можа негатыўна ўздзейнічаць на іншыя органы.

«Першае: летам нішто так не супакойвае, як праца на агародзе. Пасадка, праполка, палійка раслін. Заспакойваецца нервовая сістэма, нават калі ўзімку сну не было, усё стане на месца», — распавядае яна.

«Другое — прагулкі па свежым паветры. Асабліва перад сном, 30-40 хвілін. Гэта больш адносіцца да зімы, бо летам праца на агародзе замяняе прагулкі», — сама Валянціна Антонаўна з мужам ладзіць такія прагулкі штодзень.

«Калі з нейкай прычыны ў вас халодныя ногі, вы не заснеце. Перад сном іх трэба апусціць на 10–15 хвілін у добра цёплую ваду», — дадае яна.

З напояў яна рэкамендуе мёд з малаком (сталовая лыжка мёду на стакан цёплага малака), калі на іх няма алергіі. Дапамагае і ліпавая гарбата з мёдам, чай з меліса й і мацярдушкай. Таксама перад сном можна пажаваць некалькі зярнят кмену.

**Парады доктара**

Праблемамі са сном займаюцца і прафесійныя дактары. «НН» звярнулася па парады да Тацяны Гарбат, кандыдата медыцынскіх навук і спецыяліста Цэнтра здароўя сну.

«Найперш трэба не збіваць цыклы сну, гэта значыць класціся ў адзін і той жа час. Калі вы кладзецеся аб 11-й, то і ў выходныя трэба класціся аб 11-й», — кажа яна.

Непажаданы і прагляд тэлевізара, карыстанне планшэтам ці тэлефонам за дзве гадзіны перад сном, нагадвае яна. Блакітнае святло ад экранаў збівае сінтэз мелатаніну, пры недахопе якога цяжка заснуць. Да таго ж навіны ці фільмы нясуць вялікую эмацыйную нагрузку, падвышаюць базавы ўзровень трывогі.

Калі выпрацаваўся ўмоўны рэфлекс на засынанне ад мастацкай літаратуры перад сном, то рэкамендуецца і працягваць чытаць. Не варта збіваць і іншыя рытуалы — цёплая ванна, прагулка альбо іншыя справы, на якія выпрацаваўся рэфлекс засынання.

Таксама доктар не рэкамендуе есці за дзве гадзіны да сну, бо актывуецца страваванне.

З таго, што дапамажа засынанню з напояў і настоек, доктар рэкамендуе цёплае малако з мятай альбо травяныя гарбаты з мёдам, мелісай. «Але зноў жа, канцэнтрацыя іх павінна быць адэкватнай, бо калі яе ўзмацніць, невядома што будзе. Не злоўжываць!» — нагадвае яна. А тую ж валяр'янку нельга рэкамендаваць усім, яна выпісваецца толькі пры пэўных паказаннях.

Піццё кавы (а тым болей алкаголю, які доктар ніяк не мае права рэкамендаваць) кагосьці можа расслабіць, а іншых толькі ўзбудзіць. «Непажадана піць каву ці гарбату ўжо ў другой палове дня», — нагадвае яна. Таксама і наатропныя прэпараты, кшталту пірацэтану, лепей ужываць да абеду.

**Аляксандр Арсёнаў**

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Слован»



**8 студзеня** мінскае «**Дынама**» ў рамках чэмпіянату КХЛ прымае браціслаўскі «Слован». Змаганне пачнецца а 19 гадзіне. **13 студзеня** ў госці да «зуброў» прыедуць маскоўскія дынамаўцы. Пачатак таксама а 19. Гульні пройдуць на «Мінск-Арэне».

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Кубань»

**10 студзеня на «Мінск-Арэне»** пройдзе матч рэгулярнага чэмпіянату ВТБ. «Цмокі» прымаюць краснадарскі «Лакаматыў-Кубань». Пачатак а 15.

## КАНЦЭРТЫ

### Яўген Барышнікаў

**9 студзеня ў клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** з акустычнай праграмай выступіць Яўген Барышнікаў. Пачатак а 19.

### S°unduk

**13 студзеня ў Тэатры эстрады (Маскоўская, 18А)** гурт S°unduk сустракае стары Новы год з праграмай «Новая зіма». Пачатак а 19.

### «Разбітае сэрца пацана» і Саладуха

**14 студзеня а 19 у клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — сумесны выступ гурту «Разбітае сэрца пацана» і Аляксандра Саладухі.

## ВЫСТАВЫ

### Бліжэй, чым блізка

Што можа быць бліжэйшае, чым позірк, дотык, пацалунак ці малітва? Гэта цягам паўгода высвятлялі 10 беларускіх фатографаў, якія стварылі ў межах навучальнага курсу свае фотапраекты.

Канцэпцыя «Бліжэй, чым блізка» стала пранікненнем у свет самых розных герояў і з'яў, аб'яднаных максімальна глыбокім пагружэннем у тэму. **Адсюль і агульная назва выніковай выставы, якая праходзіць у прасторы ЦЭХ (Незалежнасці, 58/6).** Зазірнуць бліжэй, чым блізка, фатографы вырашылі з дапамогаю 13 дакументальных і арт-праектаў у тыя праблемы, якія іх хвалююць: людзі з абмежаванымі магчымасцямі, беларуская навука, пошукі зніклых, тайскі бокс, смяротная кара, самагон, скокі з парашутам.

### Каляровыя аповеды

**У Музеі сучаснага мастацтва (Незалежнасці, 47)** праходзіць персанальная выстава жывапісу Васіля Касцючэнкі «Каляровыя аповеды». Адышоўшы ад састарэлай кансерватыўна-акадэмічнай пластыкі, мастак здолеў выпрацаваць свае прыёмы, уласцівую толькі яму жывапісную пластыку, адэкватную сённяшняму часу.







### Соль зямлі

У Музеі сучаснага мастацтва (Незалежнасці, 47) праце выстава тэкстыльных аб`ектаў Настассі Арайс і Веранікі Фаміной «Соль зямлі». У аснове экспазіцыі — пласканыя і прастораваы формы з воўны, якія будуюць адзіную прастору, складаюцца ў адно выказванне. Аўтаркі прапануюць у простых брутальных прымітывах адшукаць і адчуць асноўныя жыццёвыя каштоўнасці, непадпарадкаваныя часу — тое, што завецца соллю зямлі.




## ТЭАТРЫ

### 8 студзеня

**Балет** — Лебядзінае возера, Шчаўкунок
**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Офіс, Гендэль-Бах
**Лялек** — Марозка

### 9 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Лялек** — Марозка
**Опера** — Снягурка

### 10 студзеня

**Балет** — Лебядзінае возера, Шчаўкунок
**Беларускай драматургіі** — Нязваны госць, Два чароўныя парасоны
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Пэпі Доўгаяпанчоха

### 11 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ, Гісторыя двух сабак
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Кот у ботах

### 13 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Оперы і балета** — Вялікі навагодні баль у Вялікім тэатры

### 14 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Ліфт
**Купалаўскі** — Не мой

## КІНО

### Зыход: Цары і багі

**Жанр:** драма, баявік, прыгоды
**Рэжысёр:** Рыдлі Скот
**У ролях:** Крысціян Бэйл, Джоэл Эдгертан, Джон Туртура, Аран Пол, Бен Мендэльсан, Марыя Вальвердэ, Сігурні Уівер, Бен Кінгслі, Хіам Абас, Ісаак Эндрус
Вялікабрытанія, ЗША, Іспанія, 150 хв.

Маісей з'явіўся на свет у тыя часы, калі фараон загадаў забіваць усіх нованароджаных хлопчыкаў габрэйскага паходжання. Каб выратаваць яго, маці паклала малога ў кошык і адправіла ўніз па Ніле. Дзіця знайшла дачка фараона, яна падабрала яго і гадавала побач з Рамзэсам — будучым фараонам. Пасталеўшы, Маісей будзе выгнаны з Егіпта за сваё паходжанне, але пасля вернецца туды па загадзе свайго Госпада, каб вызваліць свой народ ад кайданоў рабства.

Рэжысёр Рыдлі Скот («Чужы» (1979), «Гладыятар» (2000), «Праметэй» (2012)) звяртаецца за старазапаветнага сюжэта, каб стварыць новы эпічны блокбастар. Стужка выклікала шматлікія спрэчкі: сцэнар часам даволі моцна адыходзіць ад класічнага сюжэта. Акрамя таго, фільм забаронены ў Егіпце, Марока і ААЭ, бо, па меркаванні ўладаў, мае шмат недакладнасцяў.

Тым не менш «Зыход» варты прагляду: ён выйшаў не толькі відовішчным (праход праз Чырвонае мора, нашэсце саранчы, алігатараў і жаб), але і паказвае асноўных персанажаў з новага боку.

**Настасся Уласава**



# Паэма з цёмнага часу

**Даследчык Лявон Баршчэўскі адшукаў у кракаўскіх архівах невядомую раней беларускую паэму пачатку XIX стагоддзя.**

26 лістапада для не абыякавых да літаратуры беларусаў — дзень сімвалічны.

У 1855 годзе ў гэты дзень памёр наш вялікі зямляк Адам Міцкевіч, у гэты ж самы дзень, але ў 1930 годзе, нарадзіўся іншы наш вялікі зямляк Уладзімір Караткевіч. Сёлетні дзень 26 лістапада быў для мяне чарговым днём працы ў аддзеле рукапісаў кракаўскай бібліятэкі князёў Чартарыйскіх, куды мне ўдалося трапіць дзякуючы пратэкцыі майго даўняга калегі па Вярхоўным Савеце 12-га склікання, цяпер прафесара гісторыі, Валянціна Голубева.

Гэта быў трэці дзень перагляду мною так званага «шчучынскага» архіва Друцкіх-Любецкіх.

Адна з самых тоўстых тэчак рукапісаў была запоўненая ў асноўным літаратурнымі тэкстамі — вершамі, п'есамі, казанямі, легендамі на польскай, французскай, лацінскай, нямецкай мовах... Недзе на дне душы варушылася надзея, што, паколькі архіў паходзіць з нашага Шчучына, у ім могуць апынуцца і тэксты на беларускай мове.

Адзін з такіх тэкстаў урэшце трапіўся: гэты была версія вядомага верша Яна Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў» («Бунт хлопаў»), перапісаная, відавочна, нейкім судовым пісарам, з устаўленнем недарэчных там рускіх слоў, кірыліцай (магчыма, гэта была копія тэксту, знойдзенага нашымі даследчыкамі ў следчай справе Паўлюка Багрыма?).


Wiersz Ruski o Religii i obyczajności.
U nas teper takich mnoha — Szto nie pomniec wżo na Boha;
a na bliznoho nikoli — wszo czyniac po swajej woli.
Boha swajho znieważajut — Warodbitow przyzywajut,
Na Stworcu Nieba niedbajut — Choc nie prawda prysiahajut.
Swiata choc nie mnoho majem — i to na myszy nie bywajem.
a na Boha narekajem — szto w chacie chleba nie majem.
Jak my z Bohem tak Boh z nami — Postuplajec hultajami.
Chuc miec szto w tym [illegible] — Tollko [illegible]
Baczku Matku znieważajesz — Zaszto wiel kawalku majesz
Zaliesz kawaltka chleba — Won honisz z chaty [illegible] nie treba.
Kali rulam dajesz wolu — Pomnisz na swoju niedolu.
Chto iezykom bic parwiecca — Tamu treba w pielkle hrecca.
Ciepier na Boha niedbajuc — bo wżo pa dwie Zonki majuc.
Zalsa czasom troch mużalowo — Wot ciepier swiet nie takowo!
Szto czużoje wziat to nie hrech — Razumiejesz byt to za smiech.
a czasom ciplom ukrasci — To wżo jakby miet w prepasci.
Bliznomu dobra nie życzysz — Choc jomu szto i pożyczysz
[illegible] — Kłoby odobrat we dwoje.
Mało hroszy, mało chleba — Mało ziemli, bolej treba.
Wies swiet zharnut odyn chociew — Kalib z stollki syły mieu.
Prydet sudyt tobie kaho — Pier uhlaniesz na bahataho.
Chto dasc bolej, prawda taho — Chudy prosaw, wina jaho.
Pychu w sercu swoim majesz — Mizerakow znieważajesz.
Nad kryszkoy chleba [illegible] — Hołodnomu dac żalejesz.
Hniewajecca Brat na Brata — Czasem kryku połna chata,
Mież siestrami Kłaeby [illegible] — Kab prapała Boha prosie.
Zawidujesz szto druhomu. — Szto wiedziecca w jeho domu,
Majec chleba, majec pszczoły — Tyb chaciew kab ion byuo hoły.
a Boha chwalic lenicca — I nie chocze toż malicca.
Szto Duchowny nawczaiet — Toje on wżo prepmiewajet.
Chto howoryt szto ab Boha — Tepier nie lubiet takoha.
Swiatych słow nie prymaiut — Jeszcze plutem nazywaiut.
Nie nakormisz hałodnoho — ani pakryiec nahoho.
Jeszcze

**Цёмны час**

Гэты тэкст унікальны, бо XVIII і першая палова XIX стагоддзя лічыліся «цёмным перыядам» для беларускай літаратуры. Ад яго амаль не захавалася тэкстаў пабеларуску.

І вось калі я ўжо збіраўся здаваць тэчку прыязнай супрацоўніцы архіва, на самым яе дне я раптам заўважыў складзены ўдвое аркуш паперы з напісаным па-польску загалоўкам «Рускі верш».

Учытаўся ў тэкст і ўбачыў, што твор напісаны лацінкаю, але па-беларуску! Тут жа сеў яго перапісваць на чыстых аркушах паперы. Твор аказаўся немалым — 206 вершаваных радкоў.

Скапіраваўшы яго, я выйшаў у калідор і патэлефанаваў у Варшаву Міколу Хаўстовічу, падзяліўшыся весткай пра зробленую знаходку (фотакопію якой я выслаў яму электроннай поштай у той жа вечар). Назаўтра атрымаў ад яго меркаванне, што гэты твор можа быць варыянтам даўно вядомай і ўпершыню запісанай яшчэ ў 1848 годзе вершаванай гутаркі «Вось цяпер які люд стаў».

Параўнаць тэксты абодвух твораў я папрасіў аўтарытэтнага ў гэтай праблематыцы Язэпа Янушкевіча. Праз некалькі дзён я атрымаў ад Язэпа віншаванне: знойдзены мною ў кракаўскім архіве тэкст калі і мае некалькі тэкстуальных супадзенняў з тэкстам раней вядомай гутаркі, але можа цалкам разглядацца як раней невядомы твор айчыннай літаратуры пазамінулага стагоддзя!

У кожным разе, гэтая версія мае шанец быць найбольш блізкай да аўтэнтыка твора, напісанага, на думку Янушкевіча, недзе ў пачатку XIX стагоддзя. Бо яна і паўнейшая, і больш арыгінальная з моўнага гледзішча, у параўнанні з гутаркай «Вось цяпер які люд стаў». Паводле жанру маю знаходку можна ахарактарызаваць як вершаваную казань, у той час як вышэйзгаданая гутарка — гэта хутчэй сацыяльна дыдактычная паэма...

Наступны мой прыход у архіў практычна пацвердзіў Язэпаву здагадку: усе датаваныя дакументы з гэтай часткі тэчкі паходзяць з перыяду 1812—1825 гадоў, а наступны дакумент, што ляжыць побач з беларускай паэмай, мае нават дакладную дату — 12 чэрвеня 1824 года! Трэба заўважыць, што ўсе дагэтуль вядомыя беларускамоўныя вершаваныя творы першай трэці XIX стагоддзя былі ўжо вядомыя (і збольшага апублікаваныя) за царскім часам.

Хто можа быць аўтарам «Верша аб рэлігіі і абычайнасці»? На жаль, матэрыялы архіва Друцкіх-Любецкіх не даюць ніякіх, хоць бы ўскосных, намёкаў на гэта. Але, калі пафантазіраваць (асабліва звярнуўшы ўвагу на радкі: «Як станем на Страшным Судзе // Нядобра там такім будзе»), дык можна сабе ўявіць аўтарам і... самога Адама Міцкевіча!

Чаму не? У кожным разе, моўныя асаблівасці тэксту з вялікай доляй верагоднасці сведчаць, што ніводзін з вядомых паводле імя на той час беларускамоўных паэтаў (Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Вікенцій Равінскі) аўтарам гэтага твора быць не мог.

Спяшаюся падзяліцца фрагментамі (128 радкоў з 206-ці) знойдзенага тэксту з чытачамі «Нашай Нівы». Тэкст для гэтай публікацыі быў перароблены на кірыліцу і крыху адаптаваны да сучаснага правапісу.

Навуковую публікацыю поўнай арыгінальнай версіі плануем падрыхтаваць у супрацоўніцтве з Міколам Хаўстовічам і Язэпам Янушкевічам крыху пазней.

Ну, а ўжо 22 снежня пасля чарговага прагляду той самай тэчкі «за чатыры дакументы» перад «Вершам аб рэлігіі і абычайнасці» я ўбачыў яшчэ адзін беларускамоўны твор — велікодную жартаўлівую песню без назвы на 34 радкі, таксама запісаную лацінкай!

Але гэты тэкст, з прычыны спецыфічнага почырку перапісчыка ці аўтара, я пакуль што да канца не расчытаў.

**Лявон Баршчэўскі, Кракаў**



**Лявон Баршчэўскі**

Нар. 1958. Перакладчык, гісторык беларускай літаратуры, палітык. Дэпутат ВС XII склікання (БНФ).

## Верш аб рэлігіі і абычайнасці

У нас цяпер такіх многа,
Што не помняць ўжо на Бога,
А на бліжняга ніколі —
Ўсё чыняць па сваёй волі. /…/
На Створцу Неба не дбаюць,
Хоць няпраўду прысягаюць.
Свята хоць нямнога маем —
І то на мшы не бываем,
А на Бога наракаем —
Што ў хаце хлеба не маем.
Як мы з Богам, так Бог з намі
Паступляе, з гультаямі. /…/
Бліжняму дабра не зычыш —
Хоць яму што і пазычыш,
Бо пазычаеш на тое,
Штобы адабраць удвое:
Мала грошай, мала хлеба —
Мала зямлі: болей трэба:
Свет згарнуць адзін хацеў [бы],
Калі столькі сілы меў [бы]. /…/
Пыху ў сэрцы сваім маеш:
Мізаракаў зневажаеш. /…/
Гневаецца брат на брата:
Часам крыку поўна хата.
Між сёстрамі кляцьбы досыць —
Каб прапала, Бога просіць. /…/
Хто гаворыць што пра Бога,
Цяпер не любяць такога:
Святых словаў не прымаюць —
Яшчэ плутам называюць:
Не накорміць галаднога —
Ані пакрые нагога. /…/
Сны дзів[яц]ца гаратному —
Што не мае, рад чужому.
Іншы надта свайго мае —
Такі чужое хапае.
Як станем на Страшным Судзе —
Нядобра там такім будзе:
Добры пойдзе ў Боскі рукі,
А лядашчы — ў пекла мукі. /…/
Не адкупяць бацька, маці
Хоць бы роднага дзіцяці,
Ані тэж муж любай жоны,
Хоць ён быў ёй прывяжоны,
Ані тэж пан слугі свойга,
Хоць у яго грошы многа. /…/
Такі, хто чужому хціўы, —
Хрысціянін непраўдзівы:
Пан Бог расказаў бліжняму
[Гэтак] жыць, як сам самому:
Не чыні крыўды нікому —
Дай брату, што маеш ў дому…
Ксяндзу часам даць не хочаш,
А ў карчму заўжды валочыш.
Хто з патрэба на гарэлку —
Ты за імі памаленьку.
У карчме праз дзень бываеш,
Гарэліцу папіваеш /…/,
Умерлых хаваць не хочаш,
А на хаўтурах хахочаш,
На душу запамінаеш —
Мшы Святой не закупляеш.
Ў Цэркві ты не ёсць спявакам —
На кірмашах ходзіш ракам,
Да споведзі не ўчашчаеш —
Хіба раз у рок бываеш:
І то яшчэ не з-за цноты —
Бадай толька не з нудоты.
Пацер змалку не вучыўся —
Як пабольшаў, заляніўся. /…/
Аж як толька хлеб з'явіўся,
Знову на Бога забыўся:
З колькі снапоў прамалоціш —
Зараз у карчму валочыш
На жалеза, тож на колы,
Аж нет грошай і сам голы.
Толька што сам заліў вочы —
Не дойдзеш дадому ўночы. /…/
Як стане ў даму сварыцца —
А прытом зачне і біцца —
З такім гаспадарствам, браце,
Пусткі быць могуць у хаце. /…/
А потым, пане Якіме,
Нада маліцца мякіне:
Што б табе даў Бог, і многа —
А з табой было б нічога.
Але з чым, браце, быў ў калысцы,
З тым быць прыйдзе і ў магілцы.
/…/
А хоць часам і хлеб маеш —
На йгру з хаты прыкрадаеш.
Ў асянінах ўперад цябе
Там не маеш роўных сабе,
А гдзе хрэсьбіны чуваеш —
Хоць не кумам — там бываеш.
На вяселлі хто з прыносам,
А ты першы прыйдзеш з носам.
Як у фляшку хто зазвоніць —
Там цябе як ліха гоніць!
Піеш многа, аж па горла —
Не дарма назад папёрла.
За то кара не ад Бога,
Але ад цябе самога.
І з гарэлкі то бывае,
Што да смерці забівае,
А часам што і запаліць
Альбо на дарозе зваліць:
Ад марозу рукі, ногі…
От цяпер — вечны убогі.
Як што банкеты мінуцца,
Ўспомніш, у што б завінуцца:
Пойдзеш дахаты скалелым,
А праз паўгода — згалелым. /…/
Як на той свет прыбірацца —
Ты не хочаш спавядацца,
А там за чужое чэрці
Будуць ў пекле скуру дзерці:
Не знаюць Неба, ані грэху,
Ані тож людскога смеху. /…/
Як сам на свеце бязбожны,
Хочаш, штоб такі быў кожны.
Цяпер на ўсё глух, не помніш —
Потым, не ў час, ўсё прыпомніш.
На людское нараканне
Боскае [ёсць] прыказанне.
Зямля, родна наша Маці,
І рада, й нас будзеш браці.
Ніхто не выйдзе ад смерці —
Круці — не круці, нада ўмерці.

Таццяна Барысік. Апавяданне.

# На Каляды

*Продкі, ратуйце нас*
*ад неспакою ды гора,*
*Хай усё застанецца так, як цяпер.*
**З песні народа янадзі, тубыльцаў джунгляў Індыі, што апынуліся пад пагрозай знікнення**

Чорнаю хусткай апусцілася на зямлю калядная ноч. Дзікія слівы цягнулі ўвышкі свае каравыя лапы. На неба ўзышлі зоры-зорніцы — божыя памочніцы. Пад адзіным на дзве вёскі ліхтаром ззяў мільёнамі бітых шкельцаў снежны неруш. Белы дол стаіўся ў чаканні цуду. Паўсюднае бязлюддзе і цішыня аж да звону ў вушах зрабіліся звыклымі і даўно нікога не насцярожвалі.

На пачатку дваццаць першага стагоддзя, ідучы след у след, таптала каляіну на бальшаку, што яднаў Лужок і Засценак, калядная чарада. У Лужку засталося пяць жылых хат, у Засценку вокны свяціліся ў чатырох. А калядоўшчыкі ішлі і ішлі, парушаючы заўсёдную маўклівасць наваколля, няхай сабе ўжо і без зоркі, але ўсё яшчэ са спрадвечным спадзяваннем перакупіць у бога жывёлу, багата накалядаваць, як мае быць выпіць, пагуляць і пад'есці.

Першым, упэўнена раскідаючы снег валёнкамі, рушыў жвавы дробненькі Казачок. У параўнанні з астатнімі, асабліва здаля, ён глядзеўся падлеткам. Шыраچэзныя спарціўкі з лампасамі, плюшаўка на тры памеры большая, бы на плоце матляецца, вусы падмаляваныя вугельчыкам, з-пад шапкі-кубанкі «бывай 90-я» зыркае вачыма на белы свет ссохлая ў трэску кабета гадоў пяцідзесяці, жыхарка Лужкоў Валя Чацвяртушка. А дзе ж ты будзеш поўная, дагледжаная і заўжды цвярозая, калі ўся работа на адны рукі! Такую ўжо долю пакінула ў спадчыну маці разам з мянушкаю. Як есці і піць дык усе, а як рабіць — дык толькі Валя. Яна і ў гародзе, яна і на ферме, яна і з кароваю, яна і ў ягады, яна прыбраць, наварыць і памыць. Але ж колькі не высільвайся — тваражок, смятанка і мяса ўмомант разыходзяцца, за сталом застаецца пярлоўка, смажаная на крамным тлушчы бульба ды таннае віно. Не хочаш — не пі, вып'юць іншыя, а ты так і застанешся са сваёю стомаю і слязьмі сам-насам.

Жыццё ідзе сваім ходам, тоесёе ў ім перайначваецца, а палёгкі няма . Зачынілі ферму — грошай не стала зусім, магчымасці выручыць паўлітру якога пойла за дарэмны камбікорм ці збожжа таксама. Пакрысе звялася яе сямеечка, застаўся толькі мужык. Па маладосці такі ўжо ваяўнічы быў, такі заядлы, як вып'е — адразу біцца кідаецца, а пасля па яго міліцыя едзе. Цяперака ўжо нікуды не лезе, толькі ляжыць на ложку і стогне з тае пары, як з апошняй адседкі вярнуўся. Спярша сухоты ў яго прызнавалі, пасля і ногі адняло. Ізноўку ўсё на адны Валіны рукі. Добра Андрэйка, нябожчыка Лёнькі Лупатага пасынак, калі-нікалі памагае. Сірата пры жывой матцы, каб яе зямля не насіла, прайдзісветку прыблудную! Вось і сёння зайшоў у госці ды шчэ са сваімі ста грамамі, ля печы пагрэўся, пад'еў трохі і чуе: «Сёння ж Багатая Каляда, то хадзем у Засценак калядаваць. Яны тамака багатыя — усе пенсію палучаюць! Ды і карову ў Бога перакупіць трэба, каб не хварэла і ацялілася ўдала. Адзявай кажух на той бок — казлом будзеш». Ну, казлом дык казлом, Андрэйка і не думаў Валі пярэчыць, хаця ні пра якое калядаванне ніколі не чуў. Сцяміў толькі адно — яго клічуць на пагулянку, дзе кладуць каўбасу ў торбу, даюць выпіць. А мо і маладзіца якая да каго гасцяваць прыедзе, тады ён адразу пойдзе ў прымы, бо ў горадзе ўсе багатыя, на машынах ездзяць і ў печы паліць не трэба.

Надта бедным на радасці і забавы выдаліся ягонае дзяцінства і маладосць.

Гадоў з васьмі гадаваўся ў дуркаватым інтэрнаце. Тамака краў з тумбачак круглыя пячэнікі, большыя хлопцы білі, а бараніць не было каму. Маці падзелася некуды, як яшчэ малы быў, а знайшлася, калі ў восьмым класе вучыўся, забрала і павезла ў Расію да цыгана. У цыгана ён даглядаў быдла, а матка — цыганятаў. Аднаго разу яна пайшла ў горад на кірмаш і зноўку знікла. А праз год напісала ліст: маўляў, прыязджай, сынку, да мяне, я выйшла замуж у вёску за добрага чалавека. Андрэйка назбіраў грошай на дарогу і дызелямі з перасадкамі, баючыся, каб міліцыя не забрала, бо ў свае дзевятнаццаць так і не прыдбаў пашпарта, дабраўся да Лужка. Новы айчым меў хату і каня, хаця й любіў выпіць, але гультаём не быў: улетку пасвіў калгасныя цяляты, разам з Андрэйкам пераворваў соткі тутэйшым дачнікам, збіраўся вясною купіць парася. Толькі не пашчасціла. Пайшоў летась Андрэйка ў мястэчка ў заработкі — калоць дровы адной бабцы. Атрымаў грошы, загуляў з Насцяю — другая хата злева як на пошту ісці. Вярнуўся дадому дзён праз пяць — ні айчыма, ні маці, ні грошай на парася! Лёнька Лупаты ўгарэў, бо спаў выпіўшы, а юшка была зачыненай, грошы скралі невядома калі, маці кудысь падзелася, хавалі айчыма ўжо без яе . Людзі здагадваліся — усё гэта невыпадкова, але дакладна сказаць, калі прапалі грошы, хто зачыніў юшку і дзе зараз жонка нябожчыка, ці жывая яна наогул, не мог ніхто — жылыя хаты стаяць далёка адна ад адной, вяскоўцаў засталося, як той казаў, паўтары калекі: хто глухі, хто сляпы, хто п'яны. Лёнькава сястра забрала каня, а хату прадала на лазню. То ж і яе бацькаўшчына! Андрэйку без дакументаў і сталай працы нічога не засталося, як перабрацца ў кінутую халупу і жыць там, перабіваючыся выпадковымі заробкамі. Хацеў у прымы прыстаць, але ў Лужку маладзіц не было, а Насця з мястэчка кішэні пачысціла і за парог выкінула.

Зараз у прадчуванні дармовай ежы і асабістага шчасця ды шчэ ў цёплым кажуху ён выбег на вуліцу і адразу сустрэўся са Сцёпішыным сынам, які ўчора быў п'яны, добры ды вясёлы і нават падарыў ваенныя штаны, а сёння — сумны, цвярозы і ўвесь калаціўся. Усё, што старая маці прыхавала на свята, ён выразаў яшчэ зранку і зараз сноўдаўся па вуліцы з адзінай марай — пахмяліцца. У маладосці служыў у войску на звыштэрміновай, загадваў складам, потым ездзіў па шабашках, апошні год вартаваў дзіцячы садок. Калі выгналі і адгэтуль, жонка страціла цярпенне. Сцёпішын сын мусіў вярнуцца ў Лужок і вось ужо месяц сядзеў на матчынам карку. Прапанову пакалядаваць ён прыняў ахвотна, бо дзе ж ты знойдзеш паўлітру на цёмнай зімовай вуліцы.

Люба прыехала адведаць цётку акурат на Каляды. Вядома, парадчыць у хаце і мыць бялізну ў святыя вечары нельга, але ісці па ваду ёй усё ж давялося, ад такога даручэння цёткі ніяк не адмажашся. Калядную чараду яна заўважыла ўжо ля калодзежа. Набрала вады ў вядро і ўглядалася ў цені, што нетаропка паўзлі па пустой цёмнай вуліцы. Валю Чацвяртушку і прыблуднага Андрэя пазнала адразу, а вось высокага мужчыну ў скуранцы і андатравай шапцы — не. Калі ў жніўні яна апошні раз прыязджала ў Лужок, тут такіх не было. Параўняліся, павіталіся.

— А гэта ж во Сцёпішын сын — Коля! — радасна прамовіла Чацвяртушка, апярэдзіўшы традыцыйнае «нешта я вас не знаю».

— Харошы дзядзька, мне ваенныя штаны падарыў! — пахваліўся Андрэйка. — Мы ў Засценак калядаваць ідзём.

— Дык вы, можа, і сам ваенны? — пацікавілася Любка.

— Было дзела... — з гонарам адказаў чалавек у скуранцы.

— Можа, і мне з вамі прайсціся? — у Любкі ад захаплення аж вочы загарэліся. Шчасце, здавалася, само ішло ў рукі. Праз якія пяць хвілін яна ўжо ўстроілася як мае быць і выскачыла з хаты .

Калядны строй Любкі ўяўляў сабою нешта сярэдняе паміж цыганкай і маці Божай: хустка з махрамі, доўгая спадніца, кажушок і скрутак з анучаў у руках — дзіця значыць. Гэткая калядоўшчыца спрадвеку была тут у кожнай каляднай чарадзе. Вобраз дзіўным чынам пасаваў Любе, пры жаданні яна магла выдаць сябе за каго заўгодна. Бо была настолькі хітрай кабетай, што, здаецца, перахітрыла ўсіх, апроч сябе.

Двухпакаёўку пасля мужавай смерці ў свякрові адваявала? Адваявала! Увесь свой век рабіць рабіла, але на пуп асабліва не брала. Хіба дурніца якая на будоўлі ўкалваць ці за станком стаяць? Не. То буфетчыцай у санаторыі прыладзіцца, то камендантам у інтэрнаце. Хай сабе заробак і невялікі, затое ў чыстым, у цёплым, маеш прыбытак і блат. Не горай як у людзей, і дываны ёсць на сценках, і лебедзі крышталёвыя ў серванце. Сын кажа: «Выкінь, мамка, усё гэтае шлунне з моды выйшла». Але што ён разумее, малады шчэ. Грэх яму на маці крыўдзіцца. Ад войска яго адмазала? Адмазала. А якую нявесту яму ўсватала! Бацька яе над усім энерганаглядам начальнік, дый сама маладзіца не бяды — золатам паабвешаная. А што не паступіў нікуды — дык не страшна. Захочуць — вывучаць, пры такім цесцю хутка ўгару пойдзе, не прападзе. Час і пра сябе ўрэшце падумаць. Вось каб знайсці мужа, лепш адстаўнога ваеннага з харошай пенсіяй! Тады можна было б і зусім у вус не дзьмуць. Кінуць працу, палежваць сабе, серыялы глядзець, а там і ўнукі пойдуць, сыну дапамога спатрэбіцца. «Зрабіла б рамонт, футра б купіла новае, як у медсястры Алачкі...» Любка вырашыла дзейнічаць: у сваёй дзіцячай бальніцы, дзе працавала апошнія гады сястрой-гаспадыняй, узяла адпачынак і пачала хадзіць на танцы «Для тых, хто малады душой» у рэстаран. Толькі сапраўдныя палкоўнікі нешта не трапляліся, хаця яна рабіла ўсё магчымае — купіла новую спадніцу, а пры знаёмстве заўжды называлася дзіцячым доктарам.

Грошы з мізэрных адпускных разышліся, палкоўнік так і не з'явіўся побач, а дзень народзінаў сваццi набліжаўся з кожным днём. Сваты — людзі забяспечаныя, тут настойкай «Журавіны на каньяку» і скрадзеным бальнічным рушніком не абыдзешся. Давялося ехаць да цёткі ў Лужок, каб разжыцца грашыма хаця б на падарунак, тым больш — Каляды, цётка не прымусіць рабіць работу.

А раптам хоць цяпер пашанцуе? Любка не адыходзілася ад Сцёпішынага сына ні на крок. «Ага, апрануты не абы-як — значыць, ёсць грошы. Высокі, здаровы, па ўсім відаць ваенная выпраўка». Жанчына імкнулася спадабацца, нахвальвала сябе як магла:

— Ды я сабе цану ведаю, раблю дзіцячым доктарам, у мяне знаёмствы ўсюды, сват — у горадзе чалавек не апошні...

Мужчына слухаў моўчкі. «Негаваркі, мусіць, сур'ёзны, не хамло якое», — узрадавалася Любка і працягвала сакатаць без упынку.

Сцёпішын сын па-ранейшаму ніяк на рэагаваў. Ногі не хацелі варушыцца, рукі ў кішэнях калаціліся. «Пахмяліцца, пахмяліцца», — пульсавала ў скронях. З кожным крокам ён усё больш шкадаваў аб сваім рашэнні перціся ў Засценак на ноч гледзячы. «Лепей бы маці патрос як след, чым звязвацца з боўдзіламі, што не бачылі прыгажэйшага за пеўнеў хвост і не елі смачнейшага за яешню. Чацвяртушка ўвесь свой век задрыпай ходзіць, у гаўне корпаецца, пра прыблуду то й казаць няма чаго, па ўсім відно — дурнаваты. Яшчэ й балбатуха гэтая навязалася. «Я сабе цану знаю, я сабе цану знаю»...Тры капейкі твая цана на старыя грошы. З кім зраўняўся? У мяне ж бацька загадчыкам пошты быў. Я ж на самой Кубані служыў! Увесь склад мой быў! Такімі дзяламі варочаў! І сыты быў і п'яны, праўда, потым ледзь адмазаўся, ну то справа даўняя...І па шабашках ездзіў, грошы пачкамі кідаў. Джынсы і красоўкі самы першы з усёй радні купіў. У Бабруйску прыду на танцы — роўных няма!

Чэзлы Казак, бязрогі Казёл, Цыганская Мадонна і Чалавек у скуранцы падыходзілі да самай вялікай засцянкоўскай хаты. Калядная ноч нібы замёрла, толькі рыпеў снег пад нагамі і фанабэрыстае «Ды я ж у белым халаціку пахаджваю, ды ў мяне ж наварана...» раз-пораз абуджала зімовую цішу...

У двух вокнах хаты гарэла святло. Колішняя гаспадыня — настаўніца Гуляевічыха — ужо гады два як памерла. Сёлета засталіся на зіму пільнаваць нажытае і гадаваць курэй дачка Марыя з мужам Сяргеем. Зараз Марыя распальвала грубку, Сяргей тупаў з кута ў кут і бурчэў:

— Хопіць там кешкацца. Давай правіць Багатую Каляду!

— Паспееш, бачыш, занятая. Спраўны надта языком балбатаць...

— Маці мая, хоць бедная была, а хавала мне ў сена каляду — чацвяртушку самагонкі і каўбасу, калі малы быў, — не здаваўся Сяргей. — Ідзі збірай на стол. Нясі халадзец з кладоўкі...

— Сам нясі, рукі не ў срацы! — не сцярпела жонка. Нетаропкую сямейную гутарку перапыніў нечаканы стук у шыбу.

— Жонка, паглядзі, каго там чорт нясе, а я ў кладоўку за халадцом.

— Во, дзіва, чуеш, лужкоўскія калядаваць прыйшлі! Чацвяртушка ў казака ўбралася, Андрэй дурнаваты, а з імі — нейкі здаровы незнаёмы мужык увесь у чорным!

— Адчыні.

— Хочаш, каб я ім тваю паўлітру аддала — адчыню.

— Ай, ну іх! Пілі ўсе разам, а ўгарэў адзін Лупаты.

— Каб шчэ толькі Валя, можа, і пусціла б, а так — хто іх ведае. Адны мы ў гэтым канцы. Мо чуў, як у Дуброве старую абрабавалі? Страшна.

— На будучы год нізашто зімаваць не застанемся.

— Гасі святло, скажу, што спаць паўлягаліся, як папытаюць. Вось так і маці мая ў канцы пяцідзясятых калядоўшчыкаў у хату пусціла. А пасля ў райкам ананімка на яе прыйшла: маўляў, партыйная грамадзянка спраўляе рэлігійныя культы...

На ганку беспаспяхова тупала калядная чарада. Цыганка шчыльней укручвалася ў хустку, чалавек у скуранцы злаваўся:

— Нехрэн было сюды перціся.

— А давайце шыбы паб'ём! Гы-гы-гы, — прапанаваў Казёл.

— Хаця ж не дадумайся — у міліцыю заявяць. Няма чаго тутака стаяць, яшчэ тры хаты е. Пайшлі да Зайца. Харошы дзед. Аўталаўка сёння была, не можа быць, каб не ўзяў чаго ў запас.

Дзед, па прозвішчы Заяц, калісьці рабіў заатэхнікам і хоць жыў не бядней за Гуляевічаў, хатку меў невялічкую, затое за свой век купіў цэлыя два матацыклы і адзін запарожац, што цяпер стаялі радком у вялізным, бы калгаснае гумно, гаражы. Багатую Каляду стары сустракаў адзін: святла не паліў, у вакенцы блішчэў агеньчык тэлевізара. Патузалі за клямку, гаспадар пачуў надзіва хутка, пашкрэбаў у сенцы і, не папытаўшы, адразу адчыніў дзверы.

— Святы вечар, багаты вечар! Дай здаровейка таму, хто ў етым даму! — праспявала напаўзабытую калядку Чацвяртушка. — А ў нас і каза е, скакаць умее, і цыганка е, паваражыць можа. А гэта во Сцёпішын сын!

— А мае ж вы дзеткі, малайцы якія! Калядуеце. Раней Тамковічы хадзілі, але ж во з'ехалі, дык у нас няма каму. Праходзьце.

— Дайце казе сала, каб каза ўстала! — не здавалася Чацвяртушка. Але ў кухні, пазастаўленай розным старым ламаччам, падаць не было дзе. Шафа ля дзвярэй, нейкае рыззё раскладзенае на зламаных зэдліках, уздоўж сцяны пыльнымі экранамі глядзяць на Божы свет тры няспраўныя тэлевізары. Сцёпішын сын пасунуўся да стала — ледзьве не ўваліўся ў памыйнае вядро. На самым ускрайку стала — на кружку парэзанае сала, дзве бляшанкі кількі ў тамаце, жменька цукерак-смактушак, адкаркаваная бутэлька віна «Сасновы водар».

— Выпіце во за свята, закусіце, кансерва харошая, для зубоў мяккая, — гасцінна запрашаў гаспадар.

Казлу і чалавеку ў скуранцы запрашэнні былі не надта патрэбныя. Адзін урэшце пахмяліўся адразу цэлай шклянкай, другі ўмомант злупіў ладны шматок сала, калупаўся ў рэштках нейкай гарадской закаткі з літровага слоіка. Валя таксама не адставала.

— Во, вы, дзядзька, нас частуеце, а Гуляішыны нават і на парог не пусцілі!

— То вялікі грэх, калядоўшчыкаў прымаць трэба.

Любка прыгубіла віно, каб не пакрыўдзіць старога. Паветра Зайцавай хаты — чад мешаны з водарам кількі і нямытай бялізны — літаральна душыў яе.

— Закусіце во, маладзічка, цукеркай доўгаіграючай. Глядзіш тэлевізар, укінеш у рот — хораша! Мне ж сын тэлевізар новы прывёз...— гаманіў дзед, займеўшы пабач вольныя вушы.

*Працяг будзе.*



КІРЫЛА ХІЛЬКО

60-гадовы мужчына прыйшоў пакоўзацца на каньках па замёрзлай Свіслачы 30 снежня 2014 года.



Здымак беларускага фатографа Сяргея Грыца (Associated Press) уключаны New York Times у 100 найлепшых фота 2014 года. Фота зроблена 24 студзеня 2014 у Кіеве. Праваслаўныя святары стаяць паміж пратэстоўцамі і шэрагам «Беркута» падчас другой, студзеньскай, фазы супрацьстаяння, калі паляцелі першыя кактэйлі Молатава. Два дні таму, 22 студзеня, загінулі Міхаіл Жызнеўскі і Сяргей Нігаян, быў закатаваны Юрый Вярбіцкі.




У Чарнігаве (Украіна) крамы прываблiваюць беларусаў беларускамоўнымі білбордамі. «Так, з памылкамі. Але ўсё адно прыемна!» — піша ў сваім «Фэйсбуку» пісьменнік Уладзіслаў Ахроменка.




Віктар Лукашэнка выйшаў на публіку з жонкай і чатырма дзецьмі. Беларускія чыноўнікі перад Новым годам наведваюць з падарункамі шматдзетныя сем'і і дзіцячыя дамы. Сёлета памочнік прэзідэнта па пытаннях нацыянальнай бяспекі разам з сям'ёй прыехаў ва Узду.

## Анекдоты і жарты

* * *

— Тата, а дзе ты ўзяў такую добрую маму?
— Выхаваў.

* * *

— Як да цябе ставіцца тваё начальства?
— Як да Бога.
— Гэта як?
— Што б я ні казаў — не слухаюць. Мае просьбы не выконваюць. Робяць выгляд, што мяне ўвогуле не існуе. Але як толькі нешта трэба — адразу ж мяне клічуць!

* * *

Хачу работу, як у Дзеда Мароза: суткі праз 364.

* * *

– Тата, усе кажуць, што я лашара!
– Ну, які ты лашара? Пінжачок ў штонікі, штонікі ў шкарпэтачкі, на шкарпэтачкі — сандалікі! Прыгажунчык!

* * *

У адрозненне ад прынца на белым кані, НЛА і снежнага чалавека хоць хтосьці бачыў!

* * *

Паддаўся ўсеагульнаму ажыятажу і купіў сабе чатыры тэлевізары. Праўда, не ўтрымаўся і адзін ужо з'еў.

* * *

– Ты памрэш у галечы, зусім адзін, акружаны толькі пакутамі і болем.
– Прабачце, што вы сказалі?
– Я кажу: распішыцеся тут — і крэдыт ваш.

* * *

Сварка ў дружнай сям'і:
– Пайшла ты!
– Сам пайшоў!
– Пайшлі разам?!
– Пайшлі!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Новаму 1915 году**

Ты прыйдзі да нас не з здрадаю, —
З добрай весткай завітай,
Развясель ты нас і ўзрадуй,
Сілы, крэпасць надай,
Каб мы йшлі не безнадзейна
К жыццю новаму ўпярод;
Знішчы ліхасці насення,
Думкі горкія нягод.
Прынясі на зямлю згоду,
Ты палёгку людзям дай,
Ясным сонейкам з усходу
Нам засмейся ты, заззяй!

**Якуб Колас**

**«НН». №1. 1915.**

**Суд на Каляды.** Міхаілу Марынічу далі пяць гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Працэс стаўся апошнім папярэджаннем ад рэжыму да наменклатуры: не спрабуй рабіцца альтэрнатывай. Чакаць пасля гэтага новых вылучэнцаў з уладнай сістэмы на апазіцыйнае лідарства наўрад ці варта.

**«НН». №1. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, аднoўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 06.01.2015.
Замова №158.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15001